Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 46 (4897) 18 лістапада 2016 г.



Досвед і талент 4



Каму патрэбны кнігі вершаў? 6



Жыў творчай свабодай 12



Візуалізацыя чалавечнасці 13



Трымаца каранёў 14-15

# Дзеля дыялогу

## з павагай да традыцый іншых народаў

**На беларускай зямлі спрадвек у міры ды згодзе жылі прадстаўнікі розных канфесій. Хрысціяне не варагавалі з мусульманамі, іудзеямі, з павагай ставіліся да традыцый і вераванняў іншых народаў. Але калі задумацца: навошта нам варагаваць? Мусульмане, як і каталікі з праваслаўнымі, будавалі свае храмы, аднаўлялі іх пасля многіх знішчальных войнаў, з трывогай перажывалі цьмяныя для рэлігіі савецкія часы. Таму можна лічыць, што адкрыццё новай Сабornай мячэці ў беларускай сталіцы — падзея значная не толькі для вернікаў-мусульман, але і для ўсіх нашых суайчыннікаў. Мы маем яшчэ адну нагоду парадавацца за тых, хто жыве побач.**





Фота Надзеі Бужан.

Кніга Уладзіміра Ліхадзедава «Беларусь і мусульманскі свет».

Больш за тое, ужо з самага першага дня працы мячэць засведчыла яшчэ адну старажытную традыцыю беларусаў: храм адчыніў дзверы не толькі вернікам, якія прыйшлі сюды для супольнай малітвы, але і стаў цэнтрам культуры, кніжнасці, месцам сустрэчы інтэлектуалаў. Тут сабраліся даследчыкі, кіраўнікі мусульманскіх абшчын з Беларусі, Расіі і Казахстана, каб за круглым сталом абмеркаваць шырокую, грунтоўную і значную тэму «Дыялог рэлігій і культур у святле сучасных тэндэнцый развіцця ісламу і выклікаў сённяшняга дня».

Падчас сустрэчы быў прэзентаваны дакументальны фільм «Міралюбівая рэлігія — іслам», а даследчык і калекцыянер Уладзімір Ліхадзедаў прадставіў выстаўку старых фотаздымкаў і кнігу «Беларусь і мусульманскі свет».

— На Беларусі пражывае 100 — 120 тысяч мусульман, існуе 26 мусульманскіх абшчын, працуе 12 мячэцяў, — кажа муфтый Беларусі Абу-Бекір Шабановіч. — Гістарычна склалася так, што татара-мусульмане тут захавалі сваю ідэнтычнасць менавіта дзякуючы рэлігіі. Нашы продкі, якія жывуць побач з беларусамі цягам больш як шасці стагоддзяў, страцілі мову яшчэ ў пачатку XV стагоддзя, праз два пакаленні. Можна сцвярджаць, нас захавала рэлігія, духоўнасць, — асноўны складнік, што падтрымлівае ідэнтычнасць і адметнасць.



Саборная мячэць у Мінску.

Пра гісторыю мусульманскай супольнасці ў нашай краіне можна даведацца са старонак кнігі Уладзіміра Ліхадзедава «Беларусь і мусульманскі свет». У мячэці адкрылася і аднайменная выстаўка фотаздымкаў. На старых выявах — мусульманскія храмы ў Слоніме і Іўі, Навагрудку і Мінску, на Смаргоншчыне і ў Клецку, іншых гарадах, мястэчках. Многія зараз можна пабачыць толькі на фота: самі будынкі, на жаль, не захаваліся да нашых дзён. Муфтый адзначыў:

— Кніга Уладзіміра Ліхадзедава «Беларусь і мусульманскі свет» стала выдатным падарункам першым асобам арабскіх дзяржаў падчас афіцыйных візітаў Прэзідэнта Беларусі. Яна была прэзентавана ў бібліятэцы кангрэса ЗША і атрымала высокую ацэнку. Выданне на рускай, англійскай, турэцкай мовах распавядае пра гісторыю татарскіх пасялішчаў на Беларусі з XIV — XV стагоддзяў і да сённяшняга дня.

Даследчык Уладзімір Ліхадзедаў прызнаўся, што вывучэнне ісламскага свету ў Беларусі — вельмі складаная тэма: мала захавалася архіўных матэрыялаў, фотаздымкаў. Над кнігай працаваў вельмі доўга, збіраў матэрыялы ў розных гарадах і краінах.

— Кожнаму з фотаздымкаў, змешчаных у кнізе і на выстаўцы, — больш як 100 гадоў, — кажа гісторык. — Я знайшоў і сапраўдны ўнікат — фотаздымак з выявай адзінага мусульманіна, які жыў у Полацку ў пачатку XX стагоддзя. Знаходкі пацвярджаюць, што сувязі Беларусі з мусульманскім светам ахопліваюць больш як 6 стагоддзяў гісторыі. На нашых землях былі выяўленыя арабскія манеты, датаваныя VII — VIII стагоддзямі. Але ў гэтай тэме яшчэ ёсць «белыя плямы».

Так, не цалкам вывучаны гандлёвы шлях па Дзвіне ў Волгу, менавіта па ім нашы продкі гандлявалі з мусульманскім светам. Даследаванні працягваюцца, таму, думаецца, нас чакаюць новыя знаходкі і адкрыцці.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## Пункцірам

✔ Шэрагу ўстаноў культуры выдаткуюць больш як 500 тысяч рублёў на фінансаванне творчых праектаў з фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва. Прынамсі, Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музейзапаведнік атрымае грошы на рэстаўрацыю і падрыхтоўку да экспанавання алейных роспісаў XVIII — XIX стагоддзяў Спаса-Праабражэнскай царквы ў Полацку; Віцебскі цэнтр сучаснага мастацтва — на падрыхтоўку новай інтэрактыўнай экспазіцыі музея Віцебскага народнага мастацкага вучылішча ў гонар 130-годдзя з дня нараджэння Марка Шагала; Дзяржаўны ансамбль танца — для стварэння і паказу канцэртнай праграмы «Спадчына» ў межах міжнароднай культурнай акцыі «Беларускі дзень»; Нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм» — на архіўныя копіі фільмаў «залатой калекцыі» беларускага кінематографа для іх шырокага паказу ў Беларусі.

✔ У Брэсце з 17 па 20 лістапада пры садзейнічанні Пасольства Рэспублікі Карэя ў Беларусі праходзяць Дні карэйскага кіно. Паказы ладзяцца ў кінатэатры «Беларусь». Жыхары і госці горада змогуць паглядзець шэсць кінастужак рознай тэматыкі і жанраў: гістарычная драма, сямейная, рамантычная і музычная камедыі, дэтэктыў-меладрама. Фільмы будуць ісці з субцітрамі.

✔ Выданне «Беларусь. Страна и люди» ўганаравана залатым медалём і дыпломам І ступені за перамогу ў намінацыі «Лепшае краязнаўчае выданне» па выніках конкурсу Еўразійскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу *Eurasian Book Fair-2016* у Астане. Кніга пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» да V Усебеларускага народнага сходу. У амаль 400-старонкавым фотаальбоме адлюстраваны значныя змены, што адбыліся ў Беларусі за апошнія пяць гадоў ва ўсіх сферах: ад эканомікі да культуры.

✔ У нашай краіне распрацоўваецца Праграма супрацоўніцтва Міністэрства культуры і Беларускай праваслаўнай царквы на 2017— 2021 гады. Паводле Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей Леаніда Гулякі, дакумент вызначыць асноўныя напрамкі ўзаемадзеяння ў галіне культуры, творчай дзейнасці, аховы і аднаўлення гісторыка-культурнай спадчыны на найбліжэйшую пяцігодку. Падпісанае ў 2003 годзе пагадненне паміж дзяржавай і БПЦ дало імпульс сумесным праектам у розных сферах, у тым ліку культурнай накіраванасці.

✔ Паводле галоўнага спецыяліста аддзела па кінематаграфіі Міністэрства культуры Беларусі Наталлі Гурынай, дзяржаўны рэгістр фільмаў, размешчаны ў адкрытым доступе, будзе прапаноўваць інфармацыю пра ўзроставыя абмежаванні, забароны на распаўсюджванне той ці іншай карціны. Інфармацыя стане даступнай з пачаткам дзеяння Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб культуры, які пачне дзейнічаць 3 лютага 2017 года.

✔ Прэзентацыя кнігі Яўгена Малікава «Традыцыі разьбянога дэкору ў народнай архітэктуры паўднёва-ўсходняй Беларусі: канец XIX — першая палова XX стагоддзя» адбылася ў Гомелі. Выданне прадстаўляе нявывучаную сферу народнай культуры Гомельскага рэгіёна — найбагацейшую традыцыю разьбянога архітэктурнага дэкору, што па сваіх мастацкіх якасцях — у адным шэрагу з традыцыямі ткацтва ды іканапісу, якімі здаўна славіцца Гомельшчына.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Прывітанне з Таджыкістана

**У Саюзе пісьменнікаў Беларусі адбылася сустрэча са старшынёю пісьменніцкай арганізацыі Таджыкістана Нізомам Касімам.**

Падчас сустрэчы, у якой узялі ўдзел старшыня СПБ Мікалай Чаргінец, першы сакратар і сакратар СПБ Генадзь Пашкоў і Георгій Марчук, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч, ішла зацікаўленая размова пра стасункі творчых арганізацый, пра дзяржаўную палітыку ў галіне літаратуры ў Беларусі і Таджыкістане. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Рудакі паэт Нізом Касім падзякаваў беларусам за велізарную работу па прадстаўленні таджыкскай літаратуры на мове Янкі Купалы і Якуба Коласа. Згадаў шматлікія прыклады, калі мінскія выдаўцы паспрыялі сустрэчы з беларускім чытачом многім паэтам і празаікам Таджыкістана. Адбылося гэта дзякуючы выданню кніг «Пад зоркай Рудакі», «Таджыкістан: імгненні вечнасці», «Подзвіг Эмамалі Рахмона» і інш. А адзін з тамоў серыі «Сугучча сэрцаў» прысвечаны сучаснай таджыкскай літаратуры — «Светлая далячынь». Пад адной вокладкай знайшлося месца вершам і апавяданням Абдулхаміда Самадава, Муміна Канаата, Лаіка Шэралі, Караматулы Мірзо, Гулрухсор Сафі, Гулназара Келдзі, Мехмона Бахці, Аскара Хакіма, Маўджуды Хакімавай, Ато Хамдама, Камолы Насрула, Фарзоны, Джанібека Акабіра, Зульфі Атаі, Нізома Касіма, Мансура Суруша, Сяргея Сухаяна, Рано Мубарыза, Леаніда Чыгрына.



Фота Кастуся Дробава.

*Старшыня СПБ Мікалай Чаргінец вітае старшыню пісьменніцкай арганізацыі Таджыкістана Нізома Касіма.*

Нізом Касім уручыў старшыні СП Беларусі Мікалаю Чаргінцу Ганаровую грамату пісьменніцкай арганізацыі Таджыкістана — «За дастойны ўклад у развіццё літаратурных сувязяў Рэспублікі Беларусь і Рэспублікі Таджыкістан». Такімі ж узнагародамі адзначаны і іншыя беларускія літаратары: Мікола Мятліцкі, Алесь Бадак, Аляксей Чарота. Візіт кіраўніка таджыкскай творчай арганізацыі прайшоў у межах Дзён культуры Таджыкістана ў Беларусі. Нізом Касім наведаў Нацыянальную бібліятэку Беларусі, музеі Мінска, пабываў на Магілёўшчыне — у Бабруйску.

**Сяргей ШЫЧКО**

## Конкурсы

# Радкі «Вішнёвых вечароў»

Першы адкрыты паэтычны батл Беларускай паэтычнай прэміі «ГЛАГОЛЬ 2016» адбудзецца 26 лістапада ў межах культурнага праекта «Вішнёвыя вечары». Да ўдзелу запрашаюцца ўсе ахвотныя.

Падчас творчага спаборніцтва ўдзельнікі чытаюць толькі ўласныя вершы. Працягласць кожнага выступлення — не больш як 8 хвілін. Адзін з вершаў павінен быць напісаны з абавязковым выкарыстаннем 6 слоў, вызначаных за дзень да конкурсу.

Кожны канкурсант мае права паставіць сабе 1 бал. У галасаванні ўдзельнічаюць і самі выступоўцы, і гледачы. Па суме балаў будуць вызначаны тры пераможцы. Першая прэмія складзе 1000 рублёў, другая — 300, трэцяя — 200.

Конкурс пройдзе ў канцэрт-холе «Вішнёвы сад», што блізу Бабруйска.

Усе ўдзельнікі будуць размешчаны ў гасцініцы бясплатна. Аргкамітэт конкурсу (ААТ «Релаксотель») аплачвае і выдаткі на дарогу.

Дадатковая інфармацыя — на сайце *http://hotelvs.by*. *E-mail* для заявак і даведак: *poetbattle@mail.ru*.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

## Імпрэзы

# Да аўтара па аўтографы

25 лістапада ў Маскве, у Цэнтральным доме літаратараў (вул. Вялікая Нікіцкая, будынак 53), у Малой зале, адбудзецца творчы вечар гродзенскага паэта Мікалая Сярова. Пачатак а 17-й гадзіне.

У праграме вечара — дакументальныя фільмы, прысвечаныя творчасці паэта, выступ аўтара, аўтограф-сесія, пытанні чытачоў. Удзельнічаюць вядомыя літаратары, сярод іх — Марына Арсеньеўна Таркоўская. Музычнае суправаджэнне вечара забяспечвае беларускі піяніст Кірыл Кедук, лаўрэат міжнародных конкурсаў. Вядучая — журналіст Таццяна Драгныш.

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**19 лістапада** — *у Цэнтр тэхнічнай і мастацкай творчасці (вул. Адзінцова, 10) на літаратурную імпрэзу «Дзеці вайны» з удзелам пісьменнікаў. Пачатак у 10.30.*

**21 лістапада** — *на вечар памяці Яўгеніі Янішчыц «Пачынаецца ўсё з любві» ў Цэнтральную гарадскую бібліятэку імя Янкі Купалы (вул. Веры Харужай, 16). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**22 лістапада** — *у Літаратурнае кафэ МГА СПБ «Прэзентацыя», у публічную бібліятэку № 17 (Лагойскі тракт, 25), на творчую сустрэчу з пісьменнікамі. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**22 лістапада** — *у Літаратурнае кафэ «Family» (вул. Першамайская, 3а) на творчую сустрэчу з паэтамі. Пачатак а 19-й гадзіне.*

**23 лістапада** — *у паэтычны клуб «Парнас» пры публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2) на творчую сустрэчу з паэтэсай і перакладчыкам Інай Фралова. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**24 лістапада** — *у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Яна Чачота, 23) на творчую сустрэчу з паэтэсай, кампазітарам і спявачкай Таццянай Атрошанка. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**24 лістапада** — *у студыю юных літаратараў «Малінаўскія галасы» пры дзіцячай бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**25 лістапада** — *на II Караткевічаўскія паэтычныя чытанні, якія ладзяцца на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта (вул. Карла Маркса, 31, аўд. 307). Пачатак у 14.30.*

**25 лістапада** — *на юбілейны творчы вечар паэта Мікалая Іванова ў Цэнтральную бібліятэку Цэнтральнага дома афіцэраў (вул. Чырвонаармейская, 3). Пачатак у 16.30.*

### Гомельскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**24 лістапада** — *на вечар з удзелам сяброў аддзялення ў Літаратурна-музычны салон пры Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна (г. Гомель, пл. Перамогі, 2а). Пачатак а 18-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**21 лістапада** — *на творчую сустрэчу гродзенскіх пісьменнікаў Ганны Скаржынскай-Савіцкай, Людмілы Шаўчэнка, Тамары Мазур з вучнямі старшых класаў школ г. Ваўкавыска ў Ваўкавыскі цэнтр творчасці дзяцей і моладзі (Гродзенская вобласць, г. Ваўкавыск, вул. Савецкая, д. 22). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**22 лістапада** — *на творчую сустрэчу з паэтам і спеваком Андрэем Скарынкіным у Гродзенскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт (г. Гродна, вул. М. Горкага, 80, чытальная зала бібліятэкі). Пачатак у 13.30.*

**24 лістапада** — *на літаратурную сустрэчу з паэтэсай Людмілай Кебіч у філіял № 1 Гродзенскай гарадской ЦБС (вул. Даватара, 21). Пачатак у 18.30.*

**25 лістапада** — *на сустрэчу гродзенскіх творцаў з вучнямі выпускных класаў Канвеліскай сярэдняй школы Воранаўскага раёна ў мэтах прафарыентацыі на паступленне на філалагічны факультэт ГрДУ імя Я. Купалы (Гродзенская вобласць, Воранаўскі раён, а/г Канвелішкі, вул. Школьная, 1). Пачатак а 13-й гадзіне.*

# На мове Хаяма

**У межах Дзён культуры Таджыкістана адбылася прэзентацыя зборніка твораў беларускага пісьменніка і драматурга Аляксея Дударава «Радавыя», які выйшаў у перакладзе на таджыкскую мову.**



Фота Кастуся Дробава.

*Злева направа: адзін з перакладчыкаў зборніка Абдугафор Абдужабараў, Аляксей Дудараў і Ібадула Машрабаў падчас прэзентацыі.*

На прэзентацыю ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі сабралася шмат гасцей. Сярод іх — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Таджыкістан у Беларусі Казідаўлат Каімдодаў, першы намеснік міністра культуры Таджыкістана Ібадула Машрабаў, старшыня Саюза пісьменнікаў Таджыкістана Нізом Касім, першы намеснік міністра культуры Беларусі Ірына Дрыга.

— Тэмы, што гучаць у драматургіі Аляксея Дударава, — вечныя і зразумелыя ўсім, таму ўспрымаюцца жыхарамі Таджыкістана як свае, — падзяліўся ўражаннямі Ібадула Машрабаў. — П'еса «У прыцемках» у перакладзе Нізома Касіма ставілася ў Таджыкскім акадэмічным тэатры драмы імя А. Лахуці. Герояў твора ўвасобілі нашы выбітныя акцёры. Можна смела казаць, што Аляксей Дудараў ужо не толькі беларускі драматург, але і таджыкскі!

Як зазначыў пісьменнік Нізом Касім, пераклад — значная частка літаратуры ў кожнай краіне. Сёння амаль усе значныя кнігі свету маюць свае адпаведнікі на таджыкскай мове. Зборнік Аляксея Дударава — не выключэнне. «Прыемна, што п'есы вядучага беларускага драматурга, на якіх узгадавалася наша пакаленне, жывуць не толькі на радзіме, у Беларусі, але і ў іншых краінах, — заўважыла Ірына Дрыга падчас мерапрыемства. — Каштоўнасць у гэтым выпадку мае не толькі якасны пераклад, але і мост сяброўства, пракладзены паміж Таджыкістанам і Беларуссю».

Сам драматург шчыра падзякаваў перакладчыкам за тое, што яго словы загучалі на прыгожай і старажытнай мове Амара Хаяма.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Лепшыя спектаклі — на тэатральных сцэнах

**На наступным тыдні ў Беларусі пачынаюцца паказы спектакляў, намініраваных на Нацыянальную тэатральную прэмію. Узнагарода ўручаецца з 2011 года раз у два гады і адзначае лепшыя тэатральныя работы ў некалькіх намінацыях.**

У 2016 прэмія пройдзе ў абноўленым фармаце: прынцып падзелу на намінацыі захаваны (выберуць лепшыя драматычны, музычны і лялечны тэатр), а новай будзе комплексная намінацыя «Тэатр для дзяцей і юнацтва», дадаліся і ўзнагароды за лепшыя жаночую і мужчынскую ролі.

Па прапанове тэатральных дзеячаў, сёлета не будуць выбіраць «Лепшую рэжысёрскую працу», як удакладніла першы намеснік міністра культуры Ірына Дрыга, перамога ў намінацыі «Лепшы спектакль» прадугледжвае, што ў ім лепшая рэжысёрская работа. У межах нацыянальнай тэатральнай прэміі таксама выберуць пераможцаў у ганаровых намінацыях за мецэнацкую дзейнасць і ўнёсак у тэатральнае мастацтва.

Сёлета на ўзнагароды прэтэндуе 21 спектакль: сярод іх як пастаноўкі класічных твораў, так і сучасных беларускіх, расійскіх і замежных аўтараў.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# «Жызэль» у сучасным стылі

З 22 па 27 лістапада 2016 года ў Віцебску адбудзецца традыцыйны XXIX Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі, у якім возьмуць удзел калектывы з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы і іншых краін. У межах фестывалю ўкраінскі тэатр «Кіеў-Мадэрн Балет» прадставіць прэм'ерны спектакль «Жызэль» Адольфа Адана, які выклікаў вялікі рэзананс сярод тэатральных крытыкаў і СМІ. Беларускі глядач убачыць яго двойчы: 22 лістапада на сцэне Вялікага тэатра Беларусі і 23 лістапада ў Віцебску.

Чалавек-легенда сучаснага балета, харэограф, мастацкі кіраўнік і дырэктар тэатра Раду Паклітару, чыя прафесійная кар'ера пачыналася ў Беларусі, распавёў пра гастролі:

— Спектакль «Жызэль» — апошняя прэм'ера тэатра «Кіеў-Мадэрн Балет». Гэта вельмі вялікі, маштабны праект з дарагімі дэкарацыямі, касцюмамі, спецэфектамі, працу над якім я пачаў у Нідэрландах. У «Жызэлі» я не змяніў галоўную ідэю класічнай версіі. Галоўная ідэя спектакля: каханне — гэта тое, дзеля чаго мы прыходзім у свет. Яе дапамаглі ўвасобіць мае даўнія суаўтары і сябры: сцэнограф Андрэй Злобін і мастак па касцюмах Ганна Іпацьева. Неверагодна, але наш творчы тандэм існуе больш за 14 гадоў, і кожная сумесная праца — гэта заўсёды свята для нас усіх.

Балет «Жызэль» ужо быў паказаны на вялікіх фэстах у Румыніі і Малдове. Беларусь — чацвёртая краіна, дзе ўбачаць прэм'еру тэатра «Кіеў-Мадэрн Балет».

**Вераніка РУСАКОВІЧ**

# Словы, агучаныя флейтай

## Кнігі і нават філасофскія думкі — у перакладзе на мову музыкі

**На пачатку лістапада ў арт-прасторы ЦЭХ прайшоў Канцэрт актуальнай музыкі. Праграма аб'яднала сачыненні маладых кампазітараў з Беларусі, Украіны і Расіі, напісаныя за апошнія 7 гадоў. Арганізатар праекта — выпускніца БДАМ і Штутгардскай вышэйшай школы музыкі, флейтыстка Марыя Калеснікава.**

Задача канцэрта — пазнаёміць публіку з багатым вобразным светам сучаснай музыкі. Кожны з нумароў пачынаўся відэазваротам кампазітара, у якім ён дзяліўся са слухачамі сваёй задумай. Падчас абмеркавання слухачы выказалі ўражанні і задавалі пытанні аўтарам і выканаўцам. Сачыненні, прысвечаныя флейце, дэманстравалі розныя тэхнічныя магчымасці інструмента: ад скерцозных і мінімалістычных гучанняў да шумавых эфектаў.

Прадстаўленыя сачыненні ахаплівалі шырокую вобразную палітру. Аляксей Каламіец, кампазітар з Украіны, прадставіў на суд публікі п'есу для флейты «*Over skyline*», прысвечаную тэме гарызонтаў, дзе раствараў у партыі флейты фанемы слоў назвы. Алег Крохалаў, студэнт Маскоўскай кансерваторыі, прадставіў «*Chu — Yin*» для флейты і двух прайгравальнікаў. П'еса была напісана пасля прачытання кнігі Борхеса «Сад разбежных сцежак». Партыя прайгравальнікаў, натхнёна выкананая кампазітарамі Вольгай Падгайскай і Віталём Эпавым, увасабляла загадзя запісаную на пласцінкі партыю флейты. Украінскі кампазітар Аляксей Шмурак у п'есе «Маркоўны сок» для сольнай флейты з дапамогай частай змены тэмпаў і памераў надаў традыцыйным музычным элементам новае гучанне. Філасофскай напоўненасцю адрозніваўся твор для флейты і бас-кларнета расійскага кампазітара Сяргея Неўскага. «*Glissade*», прысвечанае памяці ахвярам авіякатастрофы, ілюструе павольнае збліжэнне дзвюх траекторый. Выканаўцы, якія знаходзіліся ў розных канцах залы, стваралі стэрэафанічны эфект.

Прагучалі і творы беларускіх кампазітараў — выпускніцы нашай акадэміі музыкі Кацярыны Шымановіч і студэнта 3 курса Андрэя Цалко, палярныя вобразна і стылістычна. П'еса «Новы дзень» для флейты сола Кацярыны Шымановіч вылучалася з усіх нумароў канцэрта гарманічнай моваю і светлай вобразнай палітрай. «Фобіі» для флейты і віяланчэлі Андрэя Цалко быў уласцівы экспрэсіяністычны тон выказвання. Многія сачыненні, уключаныя ў праграму, былі напісаны для замежных праектаў і выконваюцца на розных пляцоўках Еўропы. Для нас жа падобныя канцэрты — рэдкасць. Парадаваў аншлаг, які ў апошнія гады нячаста ў філарманічных залах. Хацелася б, каб такія канцэрты сталі часцяй з'явай і ў нас. Быць можа, тады сучасная музыка стане для беларускіх слухачоў актуальнай...

**Любоў СЫЦЬКО**

## Дайджэст

• Магчымым месцам пахавання Данііла Хармса названы Піскароўскія могілкі. Дасюль не было вядома, дзе пахаваны майстар абсурдысцкай літаратуры: ён памёр у блакадным Ленінградзе ў 1942 годзе, у псіхіятрычнай лякарні астрога «Крыжы», дзе знаходзіўся, каб пазбегчы расстрэлу. Доўгія гады навукоўцы і прыхільнікі творчасці Хармса вялі пошукі. З заявай пра знаходку выступіў Аляксандр Марс, дырэктар аргкамітэта літаратурнай прэміі імя Хармса. Так, высветлілася, што ў лютым 1942-га памерлых з раёна Арсенальнай вуліцы вывозілі на «Піскароўку». На карысць версіі сведчаць дакументы і успаміны відавочцаў. Аргкамітэт прэміі Хармса ўжо ўзяўся за распрацоўку надмагільнага помніка, які пазней усталююць на Піскароўскіх могілках, — што цікава, не дачакаўшыся афіцыйнага пацверджання інфармацыі пра пахаванне. Між тым афіцыйныя інстанцыі ўжо адмаўляюць гэтую навіну, якая так усцешыла прыхільнікаў Хармса.

• Ганкураўскую прэмію сёлета атрымала 35-гадовая аўтарка Лэйла Слімані. Яе кніга «Салодкая песня» распавядае пра забойства двух дзяцей іх жа нянькай, якую ў сям'і вельмі любілі і шанавалі. Пісьменніца разважае над прычынамі і наступствамі такога страшнага ўчынку. Ганкураўская прэмія складае 10 еўра і прысуджаецца ўжо больш як сто гадоў. Лаўрэата традыцыйна абіраюць дзесяць членаў журы з літаратурнай акадэміі на сустрэчы ў рэстаране «Друан» у Парыжы. Прэмія прысуджаецца аўтару лепшага рамана на французскай мове, а яе заснавальнікамі былі браты Ганкур — Жуль Альфрэд Юо і Эдмон Луі Антуан.

• Стваральнік любімых ва ўсім свеце герояў Джон Р. Р. Толкін сам цяпер стане героем. Фільм-біяграфію пад назвай «Міжзем'е» здымаюць на яго радзіме, а рэжысёрам карціны стаў Джэймс Стронг, вядомы ўдзелам у стварэнні фантастычнага серыяла «Доктар Хто». Сцэнарыст стужкі Ангус Флетчэр шэсць гадоў працаваў з архівамі, шукаючы самыя розныя звесткі, якія дазволяць найбольш праўдзіва распавесці пра пісьменніка ў час яго маладосці. Менавіта гэтаму перыяду прысвечана значная частка фільма, з акцэнтам на адносіны з будучай жонкай Эдзіт Брэт. З ёю Толкін пражыў 54 гады, узгадаваўшы трох сыноў і дачку. Аднак галоўная мэта «Міжзем'я» — паказаць, якім чынам пісьменнік прыйшоў да стварэння неўміручай сагі і чароўнага свету, які захапляюцца па сённяя.

• Падмаскоўны святар Андрэй Дудараў узнавіў лецішча Уладзіміра Маякоўскага ў гарадку Пушкіна. Святар не толькі выступіў ініцыятарам праекта, але і прафінансаваў яго, сабраўшы ахвяраванні ад прыхаджан. Драўлянае лецішча паэта, дзе той рэгулярна бываў цягам многіх гадоў, у 1993-м згарэла амаль дашчэнту. Доўгі час руіны заставаліся без увагі, і толькі цяпер, пасля «народнага» аднаўлення, лецішча прыняла на свой баланс адміністрацыя горада. Айцец Андрэй і раней змагаўся за тое, каб людзі не забывалі пра выбітных пісьменнікаў: у адным з паркаў горада намаганнямі святара быў адноўлены бюст Маякоўскага, а на вуліцы Льва Талстога з'явіўся помнік гэтаму класіку.

## Ідзе падпіска на I паўгоддзе

| «ЛіМ» | 1 месяц | падпісны індэкс |
|---|---|---|
| Для індывідуальных падпісчыкаў | 4 р. 30 к. | 63856 |
| Ведамасная падпіска | 12 р. 10 к. | 638562 |
| Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў | 2 р. 80 к. | 63815 |
| Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі | 9 р. 10 к. | 63880 |

# Аўтар, выдавец, чытач

**З узаемаадносін у межах гэтай трыяды складваюцца і радасць ад працы, і прыкметы крыўды на недахоп увагі, і натхненне, і сама радасць жыцця, калі хоць і не напоўніцу, але ж адчуваеш, што твая пісьменніцкая праца запатрабавана. Неабходна ўлічваць і галоўнае: мінуў той час, калі адносная слава ахутвала імя пачаткоўца адразу пасля першай кніжкі паэзіі ці прозы. Цяпер шлях да вядомасці, папулярнасці, да ўключэння асобных твораў таго ці іншага пісьменніка ў школьныя праграмы па літаратуры, у праграмы для студэнтаў доўгі — не на адзін год і нават не на пяць.**



Таленавіта напісаны, арыгінальны, самабытны твор не застанецца без увагі чытачоў і крытыкаў. У Саюз пісьменнікаў Беларусі за дзесяць гадоў ад дня яго ўтварэння прыйшло досыць шмат таленавітай моладзі, якая смела і цікава працуе ў розных жанрах. Прыемна, што моладзь зразумела: без самаўдасканалення, без штодзённай напружанай працы яркія творы не нараджаюцца. У маладых творцаў — свой чытач. Яны, маладыя, амбіцыйныя, часта не арыентуюцца на традыцыі беларускай рэалістычнай літаратуры. У гэтым і плюсы, і мінусы. Без моцнай, выразнай духоўнай асновы, без праўды жыцця, якой паверыць чытач, на маю думку, будзе цяжка стварыць нешта цікавае і ў той жа час эмацыянальнае.

Здзівіць чытача любымі сродкамі — гэта шлях да штучнасці і фантазіі, якая танцуе вакол фанабэрыі. Кожны пісьменнік сам па сабе асоба, якая не толькі ўвабрала ў сябе ўласны жыццёвы досвед, але і адчувае прыналежнасць да лёсу краіны.

Як я часта нагадваю, лепш за беларуса пра беларуса ніхто не напіша, як і пра рускага ніхто не скажа лепш за рускага. Дзякаваць богу, на прыстойным узроўні ў нас трымаюцца ўсе жанры. Ёсць выбар і сярод намінантаў на Нацыянальную літаратурную прэмію. Хіба ж гэта не сапраўдная падзея, што ў намінацыі «Лепшы твор для дзяцей і юнацтва» сёлета было аж 11 прэтэндэнтаў! А ў паэзіі… хіба ж не заслугоўваюць самых высокіх прэмій беларускамоўныя і рускамоўныя паэты Казімір Камейша, Аляксандр Каляда, Зміцрок Марозаў, Андрэй Скарынкін, Фёдар Гурыновіч, Анатоль Аўруцін?! Шкада, што ў нас у рэспубліцы замала прэмій у галіне літаратуры. Калі не памыляюся, у Расіі іх каля сотні. Хораша, што ў нас ёсць абласныя літаратурныя прэміі, і кепска, што шырокая грамадскасць не ведае іх лаўрэатаў. Не надаюць ім увагі і айчынныя газеты ды часопісы.

І ўсё ж, нягледзячы на недахоп увагі, пісьменнікі шукаюць новыя тэмы, актыўна ідуць на сустрэчы да чытачоў у бібліятэкі і музеі, да вайскоўцаў і студэнтаў. Гэта адзін са шляхоў да папулярызацыі сваёй творчасці. А каб ісці, трэба мець уласную кнігу — не пашкодзіць. І вось тут паўстае яшчэ адна праблема, калі не галоўная: напісаў таленавіта, і сам так мяркуеш, а кніга не выдаецца. Не ўсе (адсюль і крыўды!) разумеюць сённяшнюю сістэму кнігадрукавання. Саюз пісьменнікаў Беларусі не мае ўласнага выдавецтва, а толькі рэкамендуе выдавецтвам, часам настойліва, рукапісы таго ці іншага пісьменніка. Шлях нялёгкі, па сабе ведаю, бо 30 гадоў чакаў перавыдання рамана «Крык на хутары» і 25 — перавыдання раманаў «Вочы і сон» ды «Без ангелаў».

Некаторыя пісьменнікі, якія навучыліся ўлічваць дыктат капіталістычнага рынку, самі пры дапамозе мясцовых улад арганізуюць збор тыражоў альбо выкупляюць частку тыражу, і гэта таксама дапамога выдавецтву. Дзяржава дае на выданне кнігі каля 40 — 50 працэнтаў сродкаў, астатняя шукае выдавецтва. А некаторыя лічаць, што на выданне вылучаецца цалкам 100 працэнтаў…

Нам дапамагаюць прыватныя выдавецтвы «Харвест», «Чатыры чвэрці», якім удзячны амаль паўтары сотні нашых паэтаў, празаікаў, драматургаў. «Харвест», дадамо, не ўсе тыражы рэалізуе, аднак ідзе нам насустрач. Добра, што некаторыя кіраўнікі абласных аддзяленняў СПБ знаходзяць сродкі, каб друкаваць кнігі сваіх аўтараў. Гэта цудоўна.

Цяжка ўявіць пісьменніка без кнігі. У нашым саюзе больш як 600 чалавек. Вядома, творы кожнага не могуць быць уключаны ў школьныя праграмы. Лагічна. Школьныя праграмы патрабуюць такіх твораў, якія нясуць і мастацкую, і выхаваўчую функцыі. Аднак школы раёнаў, гарадоў, вёсак, аграгарадкоў павінны хоць часткова вывучаць, ведаць творчасць сваіх землякоў. Больш-менш хутка рэалізуецца дзіцячая літаратура. Кнігі ж для дарослых чытачоў даволі дарагія. Не кожны такую набудзе…

Хто ж наш чытач? У асноўным — школьнікі і людзі сталага ўзросту, якія яшчэ любяць чытаць па-беларуску. Багата хто карыстаецца інтэрнэтам. Нашы кнігі там, канечне, прадстаўлены, але не ў шырокім фармаце.

Нам не хапае (каб большала чытачоў) яркіх прэзентацый, як гэта ёсць у нашых паэтаў-песеннікаў Івана Юркіна, Таццяны Атрошанка, Кастуся Цыбульскага, Івана Цітаўца, не хапае сустрэч са студэнтамі, не хапае і экранізацый твораў нашых пісьменнікаў. Да кнігі, прызнаём гэта, не цягнуцца людзі, як раней, і не толькі ў нашай краіне. Чытач пераборлівы. Ён надта самастойны. Яму не загадаеш чытаць таго ці іншага пісьменніка. Часам хлуслівая рэклама робіць сваю справу, і чытач замест знаёмства з духоўнай, высокамастацкай кнігай, прычым не толькі сучаснага пісьменніка, а нават класіка, аддае вольны час пустэчы, якая нічога не прыносіць душы і сэрцу. Я не супраць літаратуры займальнай, сюжэтнай, дэтэктыўнай, «для забавы», як кажуць, аднак крыўдна, калі пры знаёмстве з аўдыторыяй ніхто не ведае імёнаў сучасных пісьменнікаў не толькі нашай краіны…

Рухаюцца наперад і бібліятэкі. Большасць з іх маюць свае сайты, запрашаюць пісьменнікаў на сустрэчы з юнымі і дарослымі чытачамі. Але мы не маем права страціць чытача беларускай кнігі, а да гэтага ідзём. Чаму б, скажам, не зладзіць вялікі паэтычны вечар з лаўрэатам Нацыянальнай літаратурнай прэміі Мар'янам Дуксам у яго роднай Смаргоні, у Гродне, у Мінску? Нельга губляць інтарэсу да творчасці адно аднаго, а гэта таксама назіраецца.

Сапраўдны пісьменнік — яшчэ і чытач. Трэба жыць літаратурай. Ці багата мы чытаем водгукаў саміх пісьменнікаў на творы калег? Ды такіх водгукаў амаль няма! І гэта цэхавая праблема.

Нехта зайздросціць таму, хто больш выдаецца. Дык гэта сёння залежыць толькі ад выдавецтваў. Напрыклад, у выдавецтве «Беларусь» хораша друкуюць кнігі паэтэсы з Гродна Людмілы Шаўчэнка. А ў «Народнай асвеце» друкуюцца Сяргей і Галіна Трафімавы з Оршы. Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў за апошнія два гады выдаў у гэтым жа выдавецтве каля 20 сваіх кніжак. Тут сваю нязгоду пачалі выказваць зайздроснікі. Дык гэта ж, сябры, не кніжкі, а брашуры да 1,5 друкаванага аркуша, якія карыстаюцца попытам у юных чытачоў. Дык парадуйцеся за калегу — навошта дакараць і зайздросціць?! Права выдавецтва — выпусціць хоць паўсотні кніжак, калі іх добра купляюць.

Адсутнасць інфармацыі пра стан выдавецтваў і выклікае злосць у некаторых калег. Здараецца, што аўтар так і не даслаў свой рукапіс у выдавецтва, а крычыць на ўвесь свет, што яго не выдаюць, а суседа выдалі. Такія «лісты-крыўды» дасылаюць і ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Яшчэ трэба дзякаваць дзяржаве, што яна знаходзіць сродкі на кнігавыданне і што жыве, не памірае беларуская кніга, бо сітуацыя надта ж небяспечная.

Чытача трэба здзіўляць не графаманіяй, а сапраўды таленавітым творам. Не трэба зайздросціць тым, каму ўдаецца пісаць такія творы, бо ўсё ж перамагае талент. На гэтым паставім кропку.

**Георгій МАРЧУК**

*За падзеяй*

# Расійскі прыз для беларускай творцы

**Усерасійская прэмія імя А. К. Талстога — адна з самых прэстыжных літаратурных прэмій Расіі. Уручаецца яна за лепшыя гісторыка-патрыятычныя творы. Сёлета сярод лаўрэатаў — айчынная пісьменніца Наталля Саветная.**

Узнагароды літаратарам уручылі ў Санкт-Пецярбургскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Расіі, у Доме пісьменнікаў. Прэмію імя А. К. Талстога прысуджаюць ужо чацвёрты год. Мэта — падтрымаць творцаў, якія пішуць на гісторыка-патрыятычныя тэмы. Журы ўлічвае найперш грамадзянскасць, уменне аўтара мысліць маштабна.

У выніку працы аргкамітэта прэміі імя А. К. Талстога члены журы склалі шорт-ліст і вызначылі лаўрэатаў і дыпламантаў у пяці намінацыях. Наталля Саветная прызнаная лепшай у намінацыі «Мастацкая проза» за кнігу «Пучок травы», што летась пабачыла свет у Санкт-Пецярбургу.



*Наталля Саветная з узнагародай.*

У гэты зборнік, падрыхтаваны і выдадзены да 70-годдзя Вялікай Перамогі, увайшлі аповесці і апавяданні пра ваенны час. Падзеі, апісаныя аўтарам, адбываюцца пераважна на беларускай зямлі. У анатацыі пазначана: «Моцныя карані даюць моцныя парасткі. Пераадольваючы супраціўленне, іх сцяблінкі нясуць свету моц зямлі, цяпло нябеснага святла. Нашы прадзеды, дзяды, бацькі, настаўнікі... — аснова, карані новых пакаленняў. Кніга "Пучок травы" — пра іх, простых людзей, якія перажылі Вялікую Айчынную вайну. Гэта гісторыі маленькіх подзвігаў сапраўдных людзей».

**Зоя ШАЛЫГА**

# Калі ўваскрасае імя:

## новыя дакументы ў архіве Барыса Мікуліча

**Фонды беларускіх пісьменнікаў, пацярпелых у гады сталінскіх рэпрэсій, складаюць адметную частку ўсіх фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. Наша ўстанова шмат гадоў ажыццяўляе пошук дакументаў дзеячаў беларускай культуры 1920 — 1930-х гадоў, каб вярнуць у навуковы ўжытак незаслужана забытыя імёны і творы. Такім чынам фарміраваўся і архіў Барыса Мікуліча, які вёў вельмі актыўнае творчае жыццё: працаваў у Дзяржвыдавецтве БССР, супрацоўнічаў з газетамі і часопісамі, займаўся журналістыкай, захапляўся тэатрам, шмат ездзіў у камандзіроўкі па краіне, вучыўся ў Мінскім пединстытуце і на літаратурных курсах у Маскве... І пісаў, пісаў...**

Упершыню дакументы Барыса Мікуліча паступілі ў БДАМЛМ ад Марыі Мікуліч, сястры пісьменніка, у жніўні 1988 года. Гэта 39 адзінак захавання (119 дакументаў) за 1940 — 1954 гг., асобныя дакументы датуюцца 1957 — 1983 гг.

За дзесяць гадоў літаратурнай працы Барыс Мікуліч выдаў 7 мастацкіх кніг. Але зробленае ім да арышту 26 лістапада 1936 г. у рукапісным выглядзе не захавалася. Вось як узгадвае пісьменнік пра знішчэнне свайго даваеннага архіва ў кнізе «*Аповесць для сябе*»: «*Я вёл в Грузии дневник, но десятка два моих дневников погибло в 1937 году — то-то огорчение, что в них не нашлось никакой крамолы. А рукописи, письма и фотографии в глупом паническом ужасе сожгла Екатерина Андреевна* [цешча]. *Правда, они погибли бы позже, как остатки моей библиотеки, но тогда известие об инквизиции чуть не лишило меня рассудка*».

У архіве-музеі ў фондзе Беларускага рэспубліканскага аддзялення па ахове аўтарскіх правоў захоўваецца адзіны ацалелы даваенны твор Барыса Мікуліча — машынапіс п'есы ў 4-х дзеях «*RotFront!*» [1932 — 1933].

У асабістым фондзе пісьменніка знаходзяцца творчыя матэрыялы, якія датуюцца пераважна 1946 — 1948 гг. — часам вяртання на радзіму. Спачатку Барыс Мікуліч жыў у старэйшай сястры Кацярыны ў Ашхабадзе, дзе напісаў першую частку рамана «Адвечнае», прысвечанага падзеям вайны 1812 года (рукапіс захоўваецца ў ЦНБ НАН Беларусі, апублікаваны ў 1972 г.), з чэрвеня 1947 г. і да красавіка 1949 г. (часу другога арышту) жыў на Беларусі, працаваў у адной з бабруйскіх бібліятэк. Найбольш спрыяла працы пражыванне ў сям'і стрыечнага брата ў вёсцы Церахоўка, што на Лагойшчыне, дзе родныя стварылі самыя добрыя ўмовы для яго работы. У фондзе знаходзяцца ў аўтографах рукапісы Б. Мікуліча гэтага перыяду: варыянт аповесці «Вецер на світанні», унікальны дзённік «Повесть для себя» — у 2-х частках, апавяданне «Машина на берегу» (без канца), запіскі «Вандраванне ў той свет», «Узнагарода». Захаваўся сшытак з апавяданнямі Б. Мікуліча, напісанымі ў 1951 годзе падчас другой высылкі, сшыткі з канспектамі кніг (усяго 8!) па літаратуры XIX стагоддзя, якія пісьменнік прачытаў і пракаментаваў у 1943 — 1945 гадах, сшытак з вершамі і перакладамі твораў М. Багдановіча, Я. Купалы на рускую мову, створанымі ў гады зняволення.

Калі Барыс Мікуліч вярнуўся на Беларусь, марыў ізноў стаць пісьменнікам, убачыць сваё імя на старонках часопісаў, але былога ссыльнага нідзе не друкавалі. І толькі выпадкова, пад псеўданімам Міхайлаў, прайшлі ў друк дзве яго рэцэнзіі «Некаторыя заўвагі аб "Буквары"» («Настаўніцкая газета» , 25 снежня 1947 г.) і «Аб рытме жыцця» на кнігу В. Ажаева «Далёка ад Масквы» («Чырвоная змена», 20 лістапада 1948 г.), якія таксама захоўваюцца ў фондзе.

Трагічнасць абставін, у якіх апынуўся рэпрэсаваны, але так да канца і не рэабілітаваны пісьменнік, адлюстравана ў перапісцы Барыса Мікуліча. Яна прадстаўленая лістамі актрысы Т. Бандарчык, рэдактара газеты «Звязда» А. Барушкі, пісьменнікаў П. Броўкі, П. Глебкі, С. Грахоўскага, І. Гурскага, У. Карпава, М. Клімковіча, М. Лынькова, М. Танка ды іншых. У адным з першых лістоў да Міхася Лынькова ад 28 лістапада 1946 г. ён разважае наконт будучай працы:

«*Паважаны М. Ц.! Пасылаю Вам рукапіс адной з двух мною зробленых аповесцяў. Прашу прабачэння перад Вамі і тымі, хто будзе чытаць яе, за неахайнае афармленне, але мая паліграфічная база настолькі бедная, што лепшага не прыдумаеш. Ад Вашага слова залежыць ня толькі лёс гэтай маленькай аповесці, але, Вы разумееце, значна большае. Прашу мець на ўвазе, што 1) за дзесяць год я не меў магчымасці пісаць па-беларуску і толькі ў апошнія месяцы гэта можна было зрабіць і 2) апрача 3-4 журналаў і выпадкова залятаўшых газет ніякай іншай беларускай літаратуры не меў. Так што прашу Вас не шкадаваць алоўка…*» (Ф. 191. Воп. 1. Адз. зах. 381. Л. 2).

Апантана ўзяўшыся за працу, Барыс Мікуліч піша аповесці «Цяжкая гадзіна», «Жыццяпіс Вінцэся Шастака», «Палеская аповесць», «Развітанне», апавяданне «Зорка», навелу «Гадзюка ў кароне» і іншыя творы, дасылае ў газеты і часопісы. Адказвае на заўвагі і дапрацоўвае. І безнадзейна чакае з'яўлення ў друку сваіх твораў. Рэдакцыі знаходзяць мноства прычын, каб не публікаваць іх: то аб'ём завялікі, то тэма не актуальная, то ў плане не стаіць, то не завізіравана ў адпаведных установах і г. д. Галоўную прычыну назваў у адным з лістоў І. Гурскі: «... *спецыфіка Ваша перашкаджае*» (Ф. 334. Воп. 1. Адз. зах. 20. Л. 3).

У «Аповесці для сябе» аўтар горка заўважае: «*Если бы в печати воскресло моё имя, тогда всё, всё окрасилось бы в иной цвет, а так — рядовая, бесцветная, будничная жизнь*».

За два з паловай гады вольнага жыцця напісана было шмат, але вяртання ў літаратуру не адбылося: на доўгія дзесяць гадоў цэнзура наклала арышт на творы пісьменніка. І толькі ў 1959 годзе ўбачыла свет «Выбранае» Б. Мікуліча.

У красавіку 1949 года пісьменнік быў паўторна арыштаваны і высланы ў сяло Машукоўка Краснаярскага краю, дзе працаваў дыспетчарам у канторы леспрамгаса, іграў у самадзейным тэатры. Жыццё гэтага перыяду, стан душы, надзеі і пакуты Барыс Мікуліч падрабязна апісаў у лістах на радзіму да сваіх сясцёр Марыі, Веры і Тамары за 1950 — 1954 гг.

З ліста да сястры Тамары ад 1 снежня 1950 г.: «*Да, Тамарка, ты права — и натерпелся и намёрзся. Удивляюся сам, как перенёс. Только 2-й день, как сдали морозы, а до сих пор держались 45 — 52. Есть радиограмма, что в январе опять будут такие же. Но теперь у меня на ногах катанки, а на голове — тёплая ушанка, вот только брюк ватних ещё не приобрёл, жаль 100 рублей. Работаю, как уже писал, в паршивой конторе далекого леспункта, посёлок наш — хуже любой деревушки, света нет, только вчера открыли клуб. Книг нет совсем, радио тоже, почту получаем 3 — 4 раза в месяц, от нас до района 105 км. Интересных людей маловато, в общежитии — люди разные, похоже всё это на лагерь, честное слово. Иногда думаешь, что и 2 ½ лет передышки не было*» (Ф. 334. Воп. 1. Адз. зах. 14. Л. 4).

З ліста ад 27 снежня 1951 г.: «*…Не знаю как у Вас, а у меня с годами (да только ли с годами!) неодолимая тяга к родным — и людям, и местам. Поэтому, когда получаешь весточку из дому, так чувствуешь себя целый день в приподнятом настроении…*» (Ф. 334. Воп. 1. Адз. зах. 14. Л. 3, 3 адв.).

З ліста ад 1 сакавіка 1952 г.: «*…Может быть Вам покажется странным, но вот скоро три года, как я живу здесь, а мысли, сравнения, примеры — всё на родине. И, несмотря на то, что я — семейный человек, Верина каморка или та комната на Комплощадке по сей день кажутся уютными и заманчивыми. Уж так, видно, скроен человек: тоска по Родине сильнее смерти*» (Ф. 334. Воп. 1. Адз. зах. 14. Л. 5).



*Барыс Мікуліч — супрацоўнік Бабруйскай гарадской бібліятэкі. 1948 год.*



*Барыс Мікуліч з жонкай Марыяй Смеляковай і прыёмным сынам Яўгенам. 1953 год.*

Цяжка хворы пісьменнік не дажыў тры месяцы да сваёй рэабілітацыі і вызвалення. Ён раптоўна памёр на працы за рабочым сталом. Захаваўся ліст жонкі Марыі Смеляковай ад 20 чэрвеня 1954 года, дасланы Марыі Мікуліч, у якім падрабязна апісваецца пахаванне Барыса Мікуліча і тое, як моцна засмучаныя былі смерцю пісьменніка жыхары Машукоўкі.

У высылцы пісьменнік вёў дзённік, сляды якога згубіліся пасля яго смерці.

Да 100-годдзя з дня нараджэння Барыса Мікуліча была зроблена вялікая пошукавая праца, і фонд пісьменніка папоўніўся новымі цікавымі дакументамі. Настаўнік гісторыі Машукоўскай сярэдняй школы з Краснаярскага краю Міхась Захарцоў перадаў у архіў-музей вялікі комплекс дакументаў, сабраных вучнямі школы ў памяць пра Барыса Мікуліча. Дзякуючы М. Захарцову, архіў атрымаў копіі дакументаў з Міністэрства дзяржбяспекі СССР: аўтабіяграфію (без канца), нарад на накіраванне ў высылку на пасяленне ў Краснаярскім краі Б. Мікуліча ад 24 верасня 1949 г., ксеракопіі адбіткаў пальцаў і рук зняволенага, заявы Б. Мікуліча аб пераглядзе пытання наконт пасялення ў больш умераным клімаце, аб нязгодзе пераводу Мікуліча з пасады рахункавода на дыспетчара і інш. З Машукоўкі прыслалі таксама копіі артыкулаў і вершаў, прысвечаных пісьменніку, змешчаных у мясцовым друку. З фондам пісьменніка працавала вялікая энтузіястка кніжнай справы Святлана Калюта, загадчыца гарадской бібліятэкі № 4 горада Бабруйска. Менавіта яна адшукала і перадала ў архіў-музей багата цікавых дакументаў.

Падчас падрыхтоўкі юбілейных мерапрыемстваў супрацоўнікі архіва-музея пазнаёміліся з унучатай пляменніцай пісьменніка Тамарай Яўгенаўнай Сакаловай — галоўнай захавальніцай сямейных традыцый і гісторыі роду Мікулічаў. Сямігадовай дзяўчынкай яна была сведкай бытавання Барыса Мікуліча ў свайго дзеда Вінцэся і бабулі Анці. Яе — малую, сінявокую Тому — неаднойчы ўзгадвае пісьменнік у «Аповесці для сябе». Шмат добрых, удзячных слоў прысвячае ён родным з Лагойшчыны, якія сагрэлі яго душэўным цяплом і падтрымалі матэрыяльна. Дзякуючы Т. Сакаловай, сёння мы можам бачыць гэтых людзей на фотаздымках, якія знайшлі свае месца ў фондзе таленавітага сваяка.

**Таццяна КЕКЕЛЕВА,**
**галоўны архівіст БДАМЛМ**

# З «паэтычным народам»

**Стос рукапісаў у шуфлядзе стала, шалік, капялюш, багатая хатняя ці электронная бібліятэка — ці істотна гэта, калі паэт не мае галоўнага атрыбута — уласнай кнігі вершаў? Кніга паэзіі — гэта арыгінальная аўтарская стратэгія і разам з тым працяг кніжнай традыцыі, сродак выяўлення рэгіянальнай ідэнтычнасці і фактар фарміравання паэтычнага пакалення... Аднак людзі, якія любяць (і вывучаюць) паэзію, часцей разважаюць пра творы, чым пра кнігі. Манаграфія на 600 старонак — выдатная прапанова выправіць сітуацыю.**

Для чытача кніга пачынаецца з назвы, вокладкі і зместу, з прэзентацыі, адмысловай паліцы ў кнігарні ці назвы серыі (кодавага слова для бібліятэкара альбо сяброў). Кніга — гэта структура, выдавецкі праект, з'ява ў сацыякультурнай прасторы. Яна адначасова існуе ў розных кантэкстах, але несупадзенні немагчымыя: кніга — гэта цэласнасць, і разгадаць яе канцэпцыю з улікам усемагчымых традыцый і парадыгм — вялікае задавальненне.

Для аўтара кніга мае «персанальна-экзістэнцыяльны сэнс, бо з'яўляецца жыццятворчым актам»: дэбютны, этапны, выніковы зборнік — галоўныя пункты літаратурнай біяграфіі аўтара. У гэтым сэнсе кніга заўсёды цікавіла гісторыкаў літаратуры, і манаграфія «Кніга вершаў як феномен культуры Расіі і Беларусі» дазваляе адзначыць, што ў літаратуры ёсць не толькі прэцэдэнтныя творы, але і прэцэдэнтныя кнігі — напрыклад, «Вянок» Максіма Багдановіча — «прыклад складанай публікатарскай гісторыі і не да канца прасвятленай кампазіцыі».

Аўтары выдання — доктар філалагічных навук Ніна Баркоўская і кандыдат філалагічных навук Лілія Гутрына — адпаведна прафесар і дацэнт кафедры літаратуры і методыкі яе выкладання Уральскага дзяржаўнага педуніверсітэта, Ульяна Верына і Вера Жыбуль — кандыдаты філалагічных навук, дацэнты кафедры рускай літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Даследчыкі прапануюць разглядаць кнігу вершаў не толькі як выдавецкі праект альбо спалучэнне твораў, а як вынік адмысловага працэсу кнігатворчасці. Манаграфія будзе цікавая не толькі літаратуразнаўцам, але таксама паэтам і людзям, якія любяць літаратуру. Найперш таму, што дзякуючы шматлікім цытатам даследаванне атрымалася вельмі паэтычным. Чытач не дасць веры, што кніга вершаў застаецца феноменам культуры, калі ў манаграфіі з адпаведным загалоўкам размова будзе тычыцца выключна архітэктонікі ці метасюжэту.




*Книга стихов как феномен культуры России и Беларуси: монография / Н. В. Барковская, У. Ю. Верина, Л. Д. Гутрина, В. Ю. Жибуль. – Москва; Екатеринбург: Кабинетный ученый, 2016. — 674 с.*

Даследчыкі абазначаюць пэўныя тэндэнцыі ў кнігатворчасці на матэрыяле як расійскіх, так і беларускіх выданняў, але галоўны аб'ект увагі — сучасная расійская паэзія. На аналізе беларускага матэрыялу напісана каля 20% тэкстаў. Ульяна Верына і Вера Жыбуль звярнуліся да кніг Максіма Багдановіча, Алеся Разанава, Віталя Рыжкова, Марыйкі Мартысевіч, Віктара Ыванова, Кацярыны Зыкавай, пасмяротных зборнікаў Андруся Белавокага і Дзяніса Хвастоўскага. Пералік аўтараў вызначаецца ўстаноўкай на аналіз літаратуры эпохі *fin de siècle* — мяжы XIX — XX і XX — XXI стагоддзяў.

Адзін з самых цікавых матэрыялаў, дзе параўноўваецца літаратурная сітуацыя ў Расіі і Беларусі, — артыкул У. Верынай «Прэміі "Дэбют" у Расіі і Беларусі: паэтычнае пакаленне і аўтарская індывідуальнасць». Аднолькавыя назвы прэмій, заснаваных у розны час і з ініцыятывы розных творчых арганізацый, — супадзенне і разам з тым нагода для супастаўлення. Адно з відавочных адрозненняў — колькасць намінантаў на атрыманне прэмій. Так, на расійскі конкурс на працягу васьмі гадоў (2000 — 2008 гг.) было даслана 340 тысяч рукапісаў, і ў анталогіі «Братэрская калыска», выдадзенай па выніках конкурсу, былі прадстаўлены творы 124 паэтаў (!).

Малады аўтар у Расіі — гэта «голас у агульным хоры», і станаўленне паэтычнай індывідуальнасці абавязкова «суправаджаецца цяжкасцямі пераадолення множнасці як адмысловага канкурэнтнага асяроддзя». Беларускамоўныя паэты не сутыкаюцца з гэтай праблемай: як адзначае даследчыца, у беларускай літаратуры з'яўленне творчай індывідуальнасці заўсёды заўважнае, і лаўрэаты беларускага «Дэбюту» — аўтары, дастаткова вядомыя ў літаратурным асяроддзі.

Чым канкрэтна можа быць карысная манаграфія «Кніга вершаў як феномен культуры Расіі і Беларусі»? У кнізе раскрываецца веер магчымасцей, да якіх варта звяртацца, плануючы ўласнае выданне: напрыклад, не трэба забывацца на элементы загаловачна-фінальнага комплексу (прысвячэнне, прэамбула, каментарыі і г. д.), якія «могуць прыадкрыць задуму аўтара альбо, наадварот, заінтрыгаваць чытача сваёй загадкавасцю». Напрыклад, змест не толькі арыентуе чытача ў кнізе, але таксама «тлумачыць логіку разважання раздзелаў». Яго можна чытаць як асобны тэкст і рабіць цікавыя высновы.

Артыкул Ульяны Верынай «Тры спосабы назваць кнігу...» дапаможа аўтарам з пошукам назвы для будучага выдання. Раздзел «Архітэктоніка і метасюжэт» нагадае пра значнасць метасюжэта, які рэалізуе семантыку, закладзеную ў назве кнігі, і ўтвараецца дзякуючы сістэме лейтматываў асобных вершаў. Як заўважыць метасюжэт альбо прадумаць яго для ўласнага зборніка? Пэўныя думкі на гэты конт павінны з'явіцца падчас знаёмства з аналізамі кніг расійскіх паэтэс Алены Ісаевай «Стрэлачніца» і Веры Паўлавай «Ручная паклажа».

У даследаванні закранаецца шмат праблем з сацыялогіі культуры, гісторыі і тэорыі літаратуры. Адметнасці сучаснай сацыяльнай і «жаночай» паэзіі, эстэтычныя эксперыменты постмадэрнізму і праблема масавай літаратуры, сітуацыя «выхаду» паэзіі ў медыяпрастору і адвечнае пытанне суадносін форм, жанраў і родаў літаратуры... Даследчыкі з рознымі навуковымі зацікаўленнямі знойдуць у манаграфіі добрую ідэю ці карысную спасылку.

Манаграфія «Кніга вершаў як феномен культуры Расіі і Беларусі» — супольны праект літаратуразнаўцаў з Мінска і Екацярынбурга. Што стала нагодай для супрацоўніцтва? Па словах Ульяны Верынай, «аўтараў аб'яднала ініцыятыва і ідэя прафесара Ніны Уладзіміраўны Баркоўскай, якая прапанавала разам звярнуцца да феномена кнігі вершаў. Апошнім часам кніга вершаў робіцца так званым "старэйшым" жанрам, г.зн. падпарадкоўвае сабе іншыя, уплывае на іх. Гэта заўважана многімі даследчыкамі, але пакуль што не было нават падступу да апісання феномена, да стварэння тэарэтычнай асновы. Вось гэта мы і зрабілі і сабралі ў кніжку разам з прыкладамі аналізу канкрэтнага матэрыялу». Выданне можна набыць у інтэрнэт-краме *Oz.by* альбо замовіць на сайце выдавецтва «Кабинетный ученый».

***

На думку аўтараў манаграфіі, «кніга — магутны культурны архетып — па-ранейшаму застаецца аўтарытэтнай для розных пакаленняў і сацыяльных груп. Цікавасць самых шырокіх пластоў насельніцтва (...) да паэзіі, якая спрадзвеку вызначала феномен "паэтычнага народа", вялікае жаданне кожнага аўтара ўбачыць надрукаванай сваю кнігу вершаў — усё гэта абвяргае ўяўленне пра крызіс літаратурацэнтрызму». Тым не менш думка пра невысокую запатрабаванасць паэзіі, напэўна, неадноййчы наведвала аматараў лірыкі. Якое месца займае паэзія ў сучасным жыцці? З гэтым пытаннем мы звярнуліся да прадстаўнікоў прафесій, без якіх немагчыма ўявіць сучасную літаратуру.

# Якое месца займае паэзія ў сучасным жыцці?

**Аксана Спрынчан,**
**паэтэса, рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура»:**



— У паэзіі жыву ад нараджэння — генетычна (прапрадзед, дзед, бабуля, бацька), кніжна-бібліятэчна (кнігі займалі галоўную прастору хаты дзеда і хаты бацькоў), голасна (вершы гадзінамі гучалі ў выкананні і бацькі, і дзеда). Потым — паэзія на філфаку, тады паэзія ў аспірантуры, з'яўленне сваіх вершаў, праца ў выдавецтве. Таму бліжэй адказваць на пытанне, чым істотная паэзія для мяне, чым разважаць пра яе месца ў сучасным жыцці.

І ўсё ж… Песімістычны варыянт. Паэзія нікому не патрэбная. Людзям няма часу на прозу — не тое што на паэзію. Бібліятэкарам кнігі паэзіі непатрэбныя, бо ім галоўнае, каб была праца. А праца будзе толькі тады, калі чытачы будуць браць кнігі. Але бібліятэкары любяць жывых паэтаў, бо тыя могуць прыйсці і чытаць вершы на мерапрыемстве, тады можна паставіць птушачку за працу з насельніцтвам. Выдавецтвам кнігі паэзіі непатрэбныя, бо іх не хочуць набываць бібліятэкі і чытачы. Але выдавецтвы вельмі цэняць жывых паэтаў, якія выдаюць свае кнігі за свой кошт. Прычым попытам не карыстаецца ні дарослая паэзія, ні паэзія для дзяцей. Усё часцей, калі прапануеш набыць кнігу вершаў для дзяцей, нават бацькі, якія набываюць шмат кніг, прызнаюцца, што вершы іхнія дзеці не чытаюць.

Аптымістычны варыянт. Паэзія — рэдкая з'ява, як гало — сонца, — абрамленае вясёлкавым колам, як клубкаватая маланка, як палярнае ззянне ў Беларусі. А рэдкія з'явы не ўсім лёс заўважыць і зразумець. Недзе чытала, што паэзію заўжды ўспрымала 3 — 4 працэнты людзей. Паводле маіх жыццёвых назіранняў, гэтак і ёсць (бываюць часы, калі стадыёны збіраюцца, — але гэта — часовае, пэўная мода). І гэта файна, што ў свеце ёсць рэдкае разуменне, і прыўкрасна, што часцей паэзію разумеюць закаханыя. Як не зьнікнуць закаханыя, гэтак не знікне і паэзія!

**Анжэла Мельнікава,**
**дацэнт кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны:**



— Паэзія — рэч элітарная. Яна не можа быць масавай. Калі мы разумеем пад паэзіяй сапраўды мастацкае, а не прафаннае, кшталту «Мне твои глаза напротив говорят, что ты не против» ці «Боже, какой мужчина» і г.д. «Узоры» такіх опусаў на слыху, яны папулярныя, але да паэзіі гэта адносін не мае.

Пастаянна выступаю з лекцыямі па сучаснай беларускай літаратуры перад настаўнікамі, студэнтамі, у бібліятэках. Таму ведаю, што «заходзіць» лепш, а што не ўспрымаецца. Запатрабавана, перш за ўсё, таленавітае. Вядома, што глыбіня створанага вымяраецца глыбінёй асобы творцы. Калі гаварыць пра слухачоў, заўсёды на «ўра» ідуць вершы Анатоля Сыса, бо ў яго твораў вельмі моцная энергетыка, хораша ўспрымаецца манастрафічная паэзія Рыгора Барадуліна, зномы Алеся Разанава, вершы Леаніда Галубовіча...

З досведу выкладання літаратуры адзначу, што паэзія застаецца запатрабаванай (аднак вершы ўспрымаюцца лепш, чым паэмы), радуе, калі студэнты прапануюць сваіх аўтараў. Але не бывае, каб усе творы нейкага паэта падабаліся. Таму аўтарам варта не выдаваць нагара ўсё, што напісалася, дзеля таго, каб толькі застаўваца на слыху.

Якая паэзія патрэбная сёння? Не буду арыгінальнай: розная! Ад філасофскай да вершаў-пацешак. Тая паэзія, якая «адгукаецца» ў чытача-слухача. Часцей адгукаецца паэзія каханння. Асабліва, калі пакладзена на музыку. Такім чынам, падача для паэзіі адыгрывае важную ролю.

У беларускай паэзіі шмат таленавітых творцаў, але каб набыць ведамасць не толькі ў прафесійнай, але і «ў шырокай чытацкай аўдыторыі», не хапае банальнай раскруткі. Прычым не столькі падтрымкі крытыкаў, якія на вартыя творы адгукаюцца заўсёды, колькі звычайнай рэкламы. Напрыклад, на бігбордах: партрэт творцы, радкі з вершаў і т.п.

**Матэрыялы паласы падрыхтавала**
**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# ДЭШЫФРАТАР НЯСОНЕЧНЫХ НАСТРОЯЎ

**Кажуць, што ў эпоху кіберпанку пісаць «ад печы» (то бок у рэчышчы класічных традыцый) — бязглузда. Новых тэм няма ды і, па сутнасці, новых герояў таксама. Менавіта ў кантэксце кіберпанку і посткіберпанку разглядаюць творчасць Андрэя Дзічэнкі, а сам ён характарызуе свае мастацкія пошукі як увасабленне «рэальнасці, даведзенай да абсурду». Аўтар некалькіх рускамоўных кніг, А. Дзічэнка прадставіў сваю першую кнігу на беларускай мове — зборнік апавяданняў «Сонечны чалавек», светлая назва якога прадказальна не адпавядае надзвычай змрочнаму зместу.**




Творчасць Андрэя Дзічэнкі, якога называюць прадстаўніком новага пакалення беларускіх аўтараў, адлюстроўвае поўнае несупадзенне рэальнасці і асабістага ўспрыняцця навакольнай штодзённасці. У «Сонечным чалавеку» чытач сутыкаецца з татальным заняпадам чалавечай духоўнасці, але не на фоне дасягненняў у сферы камп'ютарных тэхналогій, а на фоне сацыяльнай рэальнасці сярэднестатыстычнай правінцыйнай мясцовасці. І ўсё гэта ва ўспрыманні свядомасці, нібыта вывернутай адваротным бокам.

Адразу варта заўважыць, што не кожны чалавек здольны ўспрыняць тэксты, прадстаўленыя ў новай кнізе Андрэя Дзічэнкі. Нават схільнаму да чытацкіх эксперыментаў аматару літаратуры, верагодна, спатрэбіцца нейкі час, каб пераадолець пэўны ўнутраны супраціў. Маю на ўвазе натуралізм у апісаннях фізічных працэсаў і адпаведны набор лексікі. Кроў, вывернутыя вантробы, скурныя захворванні, перарэзаныя і перакусаныя шыі, сексуальныя і псіхічныя адхіленні, трупы немаўлят, суіцыдальная безвыходнасць… Ва ўсім гэтым цяжка (а ў большасці выпадкаў і ўвогуле немагчыма). адшукаць хаця б які сэнс. І нават эпатажную знарочыстую адсутнасць сэнсу як мастацкі прыём таксама адшукаць можна далёка не ва ўсіх творах.

І ўсё ж праблематыка ў апавяданнях А. Дзічэнкі зусім не абстрактная, як можа падацца на першы погляд. Яна акурат мае пад сабой рэальную сацыяльную канкрэтыку. Так, месцам дзеяння называецца горад альбо школа, альбо проста хрушчоўка ў спальным раёне. Але калі гаворка ідзе пра тое, што герой *«скончыў 11 класаў, паступіў у педагагічны інстытут вялікага абласнога горада, дзе заводаў і дамоў было больш, а помнікаў Леніну цэлых два»*, то любы сучаснік можа надаць гэтаму гораду аблічча — у залежнасці ад абставін асабістай біяграфіі. Так жа, як і любы сучаснік немінчанін (альбо мінчук у першым пакаленні) зразумее іронію выразу *«з самых глыбіняў айчыны»*. Чалавеку, хаця б крыху знаёмаму з жыццём сучаснай правінцыі, сюжэты і тэмы многіх апавяданняў А. Дзічэнкі не пададуцца надуманымі. Пагатоў, па волі прызнання самаго аўтара, найвялікшы ўплыў на фарміраванне яго светапогляду аказала жыццё ў беларускім правінцыйным мястэчку.

Сапраўды, у сваіх лепшых творах Андрэй Дзічэнка выцягвае, так бы мовіць, псіхалагічныя карані многіх сацыяльных праблем сучаснасці. Такіх, як «Капітал», у якім распавядаецца пра сяброўства маладога чалавека, які вярнуўся з войска з відавочна скалечанай псіхікай, і маленькага хлопчыка, які застаўся без бацькоў і выхоўваецца бабуляй-алкагалічкай. Альбо такіх, як «Меліціна», калі дзяўчынка ў выніку перажытай трагедыі (смерць бацькі і брата падчас вайны на тэрыторыі былой Югаславіі) пачынае ўспрымаць рэчаіснасць катэгорыямі брутальнай камп'ютарнай гульні і атрымлівае як вынік паталагічную прагу гвалту над сабой.

Аўтар закранае вялікую колькасць актуальных сацыяльных пытанняў жыцця сучаснай правінцыі, сямейных стасункаў, узаемаадносінаў у моладзевым асяродку, выварочваючы канфлікты і праблемы самым, так бы мовіць, брудным бокам. Магчыма, для таго, каб гэта не быў *«крык у пустэчу»*, для таго, каб быць пачутым хаця б такім чынам, — прыцягненне ўвагі любымі сродкамі, нават калі першай рэакцыяй чытача будзе агіда. А. Дзічэнка піша пра тое, што ў сучасным грамадстве часта няма сям'і, але толькі яе вонкавая абалонка, захаваць якую становіцца больш важнай справай, чым разабрацца ў праблемах. Пра тое, як калечыць людзей неабходнасць падпарадкавання існуючай сістэме размеркавання роляў у грамадстве, неабходнасць упісвацца ў нейкія загадзя створаныя рамкі і ўяўленні пра тваю асобу, якім ты насамрэч не адпавядаеш. Аўтар апісвае сітуацыю, калі для таго, каб быць свабодным, трэба *«з іншага пераўтварыцца ў звычайнага»*, ці, калі дзяўчына вырашае, *«што прыгожыя хлопцы з багатым унутраным светам — гэта занадта танная забаўка»*, — для ўвасаблення бязмежнага свету стэрэатыпаў, у якім чалавек губляе адчуванне тоеснасці. Іншая справа, што стыль, якім карыстаецца аўтар, наўрад ці дазволіць вялікай колькасці чытачоў дайсці да разумення сутнасці яго твораў. Цешыць, праўда, тое, што Андрэй Дзічэнка прызнае гэта і нават канкрэтна акрэслівае сваю патэнцыйную чытацкую аўдыторыю.

Найлепшымі ў кнізе «Сонечны чалавек» падаюцца апавяданні «Меліціна», «Капітал», «Польская фамілія», «Зідавудзін». Але ў вялікім зборніку гэта толькі некалькі твораў. Іншыя ж перанасычаныя знарочыстай выродлівасцю настолькі, што з'яўляецца адчуванне, нібыта аўтар проста спекулюе гэтай тэмай: пра непамысныя для чалавечага ўяўлення рэчы піша звычайнымі безэмацыйнымі словамі, а ўрэшце за ўспоратымі жыватамі вожыкаў, у якія апускае твар герой апавядання, мастацкую існасць адшукаць немагчыма.

У адным з інтэрв'ю Андрэй Дзічэнка разважаў пра тое, што разуменне сэнсу яго твораў залежыць ад «настройкі» чытацкага дэшыфратара. І гэта сапраўды так. Калі дэшыфратар не наладжаны на ўспрыманне посткіберпанку, то тэкст маладога аўтара папросту застанецца наборам непрыемных слоў і антыэстэтычных матываў. Зрэшты, любы тэкст можа знайсці сваю інтэпрэтацыю. Але не кожны твор можа знайсці свайго чытача!

**Жанна КАПУСТА**

# Па-за сюжэтам

**Паміж пісьменнікам і крытыкам вельмі часта ўзнікае непаразуменне. У беларускай рэчаіснасці — амаль заўсёды. І не таму, што крытыка як жанр занепадае. А таму, што пісьменнік у пераважнай большасці выпадкаў, калі гаворка заходзіць пра яго закончаны твор, нікога, акрамя сябе, за гэтым творам не бачыць: толькі тое, як ён працаваў, колькі выдаткаваў маральных сіл, як самаадданна ахвяраваў душэўным спакоем… Нездарма ж мастакі слова параўноўваюць свае кнігі з дзецьмі! А крытык — як прадстаўнік чытацкай аўдыторыі — у любым выпадку выводзіць раман, аповесць, апавяданне, паэму ці зборнік вершаў за межы «адзінаасобнага» свету аўтара. І бывае так, што, пазбаўлены апякунчай ласкі свайго стваральніка, твор страчвае ці не ўсё. Акрамя, магчыма, сюжэта...**




Сюжэт новага рамана Міколы Адама «Прывітанне, Даша!», які выйшаў у электронным выдавецтве «Янушкевіч», акрэсліць няцяжка: сучасная беларуская правінцыя, сярэднестатыстычная школа, падлеткі-старшакласнікі, якія спрабуюць курыць, ужываць алкаголь і разбірацца з тым, што ж такое каханне і секс. Горад, у якім жывуць героі, пазнавальны для кожнага, хто хаця б раз выязджаў кіламетраў за дзвесце ад сталіцы: школа, Дом культуры, плошча, рэстаран, банк, крама... Імкнучыся гаварыць пра тое, пра што ўголас не заўсёды кажуць, Мікола Адам апісвае самыя складаныя моманты ва ўзаемаадносінах старшакласнікаў, педагагічнай практыкі маладых спецыялістаў, ладзе жыцця жыхароў невялічкага гарадка. У той час, як галоўная гераіня Даша абвяшчае пратэст абыякавасці і аднастайнасці эпатажным выглядам, яе аднакласнікі сварацца з бацькамі, ладзяць бойкі і патаемныя вячоркі з цыгарэтамі і танным вінОм. Верагодна, многія старшакласнікі пазналі б сябе ў героях рамана.

У кнізе вельмі часта ўзгадваюцца розныя кінастужкі і героі папулярных фільмаў. Магчыма, таму, што сам аўтар знаходзіўся пад уплывам кінаматываў, сюжэт у сярэдзіне рамана завярнуў у нейкі несапраўдны кіношны бок. Трупы, якіх выкопваюць з магілы і якія ажываюць (ва ўяўленні гераіні) і чыняць помсту крыўдзіцелям (у сапраўднасці); крывавыя бойкі з нечуваным гвалтам, прычыны якіх так да канца і не тлумачацца; раптоўнае пераўтварэнне слабенькіх рамантычных хлопчыкаў у адважных асілкаў… Учынкі герояў псіхалагічна ніяк не матывуюцца, а пазнавальная штодзённасць правінцыйнага мястэчка змешваецца з бязглуздымі сюжэтамі тэлевізійных серыялаў. Нязграбныя юначыя прызнанні ў каханні і наіўныя развагі пра сэнс жыцця (звычайныя ў такім узросце) перамяжоўваюцца са штучнымі патэтычнымі прамовамі ў духу рамантычных меладрамаў. Старонкі, насычаныя палымяным выхавачым пафасам, нагадваюць артыкулы ў педагагічных часопісах, але тут жа аўтар стварае сцэну, у якой малады мужчына *«гадоў дваццаці-трыццаці»* дапамагае школьніцы пераджыць страту маці з дапамогай дзвюх пляшак гарэлкі, а маладая настаўніца спрабуе вырашыць канфлікт са складаным вучнем… ударам нагі ў твар: *«Ірына Віктараўна нібы стрэліла яму нагой у ніжнюю сківіцу, аж зубы клацнулі. Хваляй з ціхім стогнам разам з крэслам паваліўся пад парту, вырубіўшыся»*.

Пра неадназначныя маральныя аспекты гэтага твора ўжо пісалі ў сецыве, а вось стылёвыя і моўныя недакладнасці засталіся па-за ўвагай. Мікола Адам відавочна намагаўся як мага больш дакладана перадаць слэнгавае маўленне, якое часам выходзіць за межы цэнзурнай лексікі. Але гэта стала галоўнай праблемай стылю: паколькі пісьменнік проста паспрабаваў перакласці на беларускую мову словы, якія, зрэшты, не маюць у беларускай мове дакладных адпаведнікаў (бо беларускамоўны падлеткавы слэнг, хаця ён і не такі распаўсюджаны як рускамоўны, усё-ткі развіваецца па іншых словаўтваральных мадэлях), то ў выніку, на мой погляд, атрымалася лексічная бяссэнсіца. Увогуле хібы перакладу з рускай мовы і відавочная адсутнасць рэдактарскай працы з тэкстам патрабуюць… немалой чытацкай мужнасці: *«змесціва адказу»*, *«курыў на ганку ў грамадстве нейкай цёткі»*, *«лёгкі пацалунак Дашу не ўладкоўваў»*, *«мог прыступаць ганарыцца вучаніцай»*, *«адпачынак неабходзен»*, *«кахае яго да ашаламлення»*… Тэкст успрымаецца як дрэнны пераклад з рускай мовы, зроблены нават і не чалавекам, а камп'ютарнай праграмай. Ствараецца ўражанне, што фармат электроннай кнігі пазбаўляе аўтараў адказнасці за прамоўленае ў літаратурную прастору слова. І гэта — з улікам таго, якую папулярнасць набываюць электронныя выданні — падаецца небяспечнай тэндэнцыяй.

Мікола Адам не выбіраў ідэальных герояў, школьнікі ў рамане «Прывітанне, Даша!» не выдатнікі, яны не вылучаюцца ані асаблівымі творчымі здольнасцямі, ані добрымі паводзінамі. Адзін толькі Коля Кот, якога за доўгі нос аднакласнікі клічуць Пінокіа, цікавіцца літаратурай і марыць стаць пісьменнікам. Менавіта ён абмяркоўвае з дзяўчынай, у якую закаханы, кнігі Міколы Адама: *«Мікола Адам цікавы… У яго ў Інтэрнеце свая старонка… Я выпадкова натыкнуўся, пачытаў, спадабалася. Часам зносімся з ім "У кантакце". Ён пра нас піша»*. Такая своеасаблівая форма самарэфлексіі. Тое, што звычайныя школьнікі абмяркоўваюць творы сучасных беларускіх пісьменнікаў, — мара ўсіх працаўнікоў літаратурнай нівы. Толькі для яе ажыццяўлення варта, відаць, дбаць не толькі пра актуальнасць тэмы, але, упэўнена, і пра якасць стылю.

**Жанна КАПУСТА**



Уладзімір ЦАНУНІН

# ПАД ГРУКАТ КОЛАЎ ЦЯГНІКА

*(дзённік падарожніка)*

***

У снах вяртаюцца імгненна
Ўспаміны пройдзеных дарог:
Халодны шэры дождж над Венай
І аўтабан на Ютэрбох,

Завулкі Кёльна і Берліна,
Варшава ў ранішняй зары,
Радопаў вузкія цясніны
І астраханскія віры,

Эльбруса белыя вяршыні
І карабахскія пяскі,
Сыпучы жвір на Паланіне,
Калінінграда маякі.

Такое з памяці не сцерці,
Бо шмат цікавага было,
Але заўжды цягнула сэрца
Дамоў, у роднае сяло.

## Халодны Рур

Чарнее горная града
Пад шапкамі аблокаў шэрых.
У скалах хуткая вада
Свідруе займшэлы бераг.

Халодны Рур праз Заўэрланд
Бяжыць таропка па цясніне,
І замкі рыцарскія ў рад
Вісяць, як гнёзды, на вяршынях.

Ад веж ляціць вароні грай
Далёкім рэхам над вадою.
Спакон вякоў вось гэты край
Жалезнай славіўся рудою.

Нібы стары бяззубы рот,
З глыбінь гары чарнее штольня.
Вакол яе калючы дрот
Хмызняк аблытаў навакольны.

Бо тут у час былой вайны
Палонных нашых мардавалі.
У небыццё сышлі яны,
Як Рура велічныя хвалі.

## Дунайская вясна

Бялюткіх чаек паплаўкі
Хістаюцца на хуткіх водах,
А пасярэдзіне ракі
Плыве грамада парахода.

Ракіты нізка да вады
Схілілі косы ў задуменні.
Зялёнай ціны правады,
Як змеі, круцяцца ў струменях.

Румын вусаты нестары
Махае спінінгам кароткім,
Бо над ракітамі ў віры
Мільгаюць шчупакі і плоткі.

Над неабсяжнаю ракой
Вясёлка ў воблаках лунае.
Я дакранаюся рукой
Да хваль блакітнага Дуная.

## Мост

Даносіў ветрык ціны водар
З глыбіняў велічнай ракі.
Спакон вякоў імклівы Одэр
Дзяліў зямлю на два бакі.

Між берагамі мост бетонны
Вісіць грамадай над вадой,
І чайкі кружаць над затонам
Бялюткай шумнай чарадой.
Кусты калючыя шыпшыны
На выспе, нібы маякі.
Шырокай стужкай да Берліна
Праз мост дарога напрасткі.

Парэнчы я рукой пакратаў
І ўспомніў, зазірнуўшы ўдаль:
За гэты мост у сорак пятым
Сусед мой атрымаў медаль.

## Варшаўскі вечар

Гудзе машын няспынны рой.
Б'е ў шэры бераг хваляй Вісла.
Над вузкай вулачкай старой
У небе зорачка павісла.

Блакіт на бруку ад вітрын.
Бляск ад рэкламы апантаны,
А скразняковыя вятры
Пад ногі скідваюць каштаны.

Узняўшы меч над галавой,
Русалка бронзай зелянее.
Цямнее скошанай травой
Мяжа палацавай алеі.

Над чарапічным дахам час
Застыў на флюгеры іржавым.
Такой убачыў першы раз
Я знакамітую Варшаву.

## Венскі аэрапорт

Лье дожджык, быццам бы
з вядра.
На ўзлётнай «Боінгі» застылі.
Даўно ляцець далей пара,
Але адкладваецца вылет.

Празрыстай стужкаю вада
Сцякае з дахаў на бетонку.
У скроні стукае нуда
Званочкам непрыемна тонкім.

А дзесьці збоку за бугром
Маланкі сее навальніца,
Раскаціста грукоча гром
Па-над аўстрыйскаю сталіцай.

А так хацелася прайсці
Па Вене проста пехатою!
Але, як кажуць, у жыцці
Заўжды здараецца не тое.

## Асенні Беласток

Лістоў кляновых жоўты рой
Сядае на зямлю ласкава.
Па ціхай вулачцы старой
Плыве прыемны водар кавы.

Каштан магутны карані
Раскінуў густа па газону.
Касцёл сівы ў далечыні
Азваўся мілагучным звонам.

Спакойна стала на душы
Ад гэтай музыкі салодкай.
Машыны, нібы мурашы,
Паўзуць уздоўж дамоў чародкай.

Чырвонай зорачкай лісток
Упаў на брук перада мною.
У лістападзе Беласток
Здаваўся казкай незямною.

## Збег ад усіх

Набіў рукзак усім,
што неабходна,
На плечы ўсклаў і
ў шэсцьдзесят гадоў
У горны край адправіўся
паходам,
Каб адпачыць ад шумных
гарадоў.

Збег ад усіх, бо моцна
ўжо «дасталі»
Турботы і штодзённы
вечны тлум.
Даўным-даўно прываблівалі далі
І жыў у сэрцы па вяршынях сум.

Адкінуў думкі пра свае хваробы
І быццам бы памаладзеў зусім,
Бо горны дух свабоды —
ён асобы.
Яго не купіш і не прадасі.

## Крамлёўскі ранак

Плыве туман над галавой,
Ахутвае вяршыні вежаў.
Зімовы ранак над Масквой
У шэрані празрыстай, свежай.

Курантаў мілагучны звон
У вышыню да хмар імчыцца
І гоніць прэч апошні сон,
Заве на вуліцы сталіцы.

Мароз на шыбы ў варажбе
Павесіў казачныя зоры.
Маленькі тлусты верабей
Чырыкае ля сцен сабора.

У белых шапках снегавых
Зубцы крамлёўскія сівыя.
Пад вартай елак векавых
На іх агеньчыкі жывыя

Чырвона-шызых снегіроў.
Нібыта ў зорачках алея.
Дзе каля сцен праходзіў роў,
Стаіць грамада маўзалея.

Дзвюма байніцамі з бакоў
Глядзіць на плошчу вежа
грозна…
Хавае сівізну вякоў
Зіма пад шэранню марознай.

## Пад грукат колаў цягніка

Пад грукат колаў цягніка
Гляджу ў акно, а там, за полем,
Цячэ шырокая рака
І на абрыве дзве таполі.

Здалося, гэта мы з табой
Схілілі голавы над кручай.
І сэрца сціснула журбой,
У горле ком засеў калючы.

Гады прабеглі, як цягнік,
Па рэйках лёсу вельмі хутка.
Далёка ў невядомасць знік
Юнацтва час з фатой
бялюткай.

Навошта і куды бяжым
У тлуме дзён з адвечнай
стомай?
Ізноў я еду да мяжы
Чужой краіны невядомай.

Пад грукат колаў цягніка
Збівае з твару слёзы вецер.
Бяжыць жыццёвая рака.
Даўно павырасталі дзеці.



Святлана ЛУК'ЯНЕНКА

***

Не заўважыла, як пакахала.
Зразумела пасля, што
ў клетцы.
Столькі год я цябе чакала,
Але ўсё ж адпусці маё сэрца.

Дзень праходзіць марозны,
звонкі.
Адзіноце сваёй я рада.
Ты мне ягад прамёрзлых гронку
Прынясі клапатліва з саду.

І забудзь пра мяне, забудзь.
Я загіну, як будзеш помніць.
Развітаўшыся, светлым будзь,
Не сумуй, узмахні рукою —

…Я шчаслівым цябе запомню.

***

Спакой мой, мая цішыня.
З'яднаны мы сэрцаў размовай.
Ты вабіш, як дзетак гульня,
Як добрае, шчырае слова.
З табой небывалы узлёт!
Ты — нібы душы вызваленне.
Будзь побач, каханне маё,
Маё залатое імгненне.

***

Ты не атрута, ты — адчай.
А ён таксама сэрца лечыць:
Міне прысуд
Ліслівых зграй,
І сціхне боль,
што невылечны.

Ты — шматпакутная
ралля.
Усе ў цябе ўпарта сеюць.
Ты — не пракляты
Богам рай.
Цішэй… Тады была завея,

Калі Зямлю спярша
адкрыў…
І прыняла цябе сцяжына,
Якую ты абраў,
прысніў —
Яна абрала свайго сына.

Ты — не хвароба, не жуда.
Ты — дзверы, што якраз
у неба.
Калі Усе — Сцяна, Бяда,
Ты — Паратунак, луста хлеба.

***

Што жыццё? Да нябёсаў
імклівы палёт.
Так у цемру імчыць той,
што позніца, поезд.
Так лістоты асенняй
хмяльны карагод
Замятае былых спадзяванняў
аповесць.

Вось ты побач з матуляй —
святыя дзянькі.
Знітаваныя ўсе мы ў вечнай
прасторы.
Толькі зорак пякучых блішчаць
светлякі,
Сонна лашчыцца месяц
праз тонкія шторы.

Мы прыйшлі, каб пайсці,
а жаданне адно —
Толькі б помнілі людзі, і неба,
і травы.
Толькі б птушкі ляцелі дадому
вясной…
І не трэба ніякай табе
іншай славы.

## Дэбют



Уладзіслаў МУЗЫЧЭНКА

**Нарадзіўся ў Магілёве. Піша вершы і музыку. Студэнт юрыдычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Саліст народнай вакальнай студыі Палаца культуры прафсаюзаў. Лаўрэат літаратурнага конкурсу «Славянскі калейдаскоп-2016».**

***

Ідэальных людзей
Няма на Зямлі.
Людзі робяць памылкі,
Чакаюць збянтэжана.
Мы малюем іх якасцей
Добры праект
І будуем у думках
Вавілонскія вежы…

## Мова кахання

Калі пустэча ў душы,
Калі надакучыла жыць,
Я рукі на плечы твае
пакладу
І разам з табою буду.

Калі развітвацца час,
Чакае расстанне нас.
Вярнуся не хутка, але
не сумуй,
Усмешкай мяне ратуй.

Калі ж адбыўся патоп,
Калі на каўчэг — натоўп.
Твой голас я першым пачую
І лодку кахання змайструю.

Не трэба нам гучных слоў,
Усіх чалавечых моў.
На мове кахання моўчкі
спытаць
І сэрцам адказ адчуваць.

## Конкурс «ПЕРШАЦВЕТ»

***

Час ляціць, успамінаў боль,
Думкі выкралі мой спакой.
Цішыня, толькі ўсё крычыць:
«Што рабіць далей?
Што рабіць?»
Каб памылак не паўтарыць,
Каб мінулым далей не жыць,
Не баяцца бегу хвілін,
Крок галоўны зрабіць адзін.

# З гісторыі адной сям'і

Вольга ГРОНСКАЯ



*Апавяданне*

***К. К. К.***

## I

Па чыста прыбраным двары хутка ішла сталая жанчына з тазікам у руках. Па зморшчаным твары было відаць, што ёй цяжка. Жалезная пасудзіна балюча ўпівалася ў бок. Босыя ногі асцярожна, але ўпэўнена, ступалі па мяккай, бліскучай ад яркага сонейка траве. Вясковую цішыню парушыў рэзкі глухі стук металу. Гэта абяссіленая жанчына кінула на парог сваю ношу і з палёгкай уздыхнула, выціраючы пот старым запэцканым клятчастым фартухом. Перавесці дух... Прысела на парог. З пустой хаты данёсся моцны настойлівы гук — тэлефон. Устаючы, жанчына абаперлася рукамі аб парог. Пакрочыла ў хату. Прысела на крэсла каля стала. Рука марудна пацягнулася да тэлефона.

— Слухаю, — прагаварыла кабета.

— Мамачка, гэта я, Ніна, — адазваўся голас на тым канцы провада.

— Ой, дачушачка, я і не пазнала. Ну як там у вас справы? Андрэй цябе не крыўдзіць? Калі ж ты да мяне Зоську прывязеш? Мне тут адной сумна, — жанчына хацела дадаць яшчэ нешта, але Ніна занепакоена перабіла.

— Мамачка, разумееш… Мішу…

— Што здарылася? Што з Мішам? — сэрца маці моцна закалацілася ад прадчування бяды.

— Мама, ты толькі не хвалюйся. Мішу забралі ў Чарнобыль. Ён прыйшоў да мяне. Я яму курыцу паклала, якую для гасцей пякла…

Ганна больш нічога не чула. Рукі наліліся свінцом і балюча апусціліся. З вачэй градам ліліся слёзы. Сэрца вырывалася з грудзей. Моцнае дагэтуль цела без сіл рухнула на крэсла. У галаве была толькі адна думка: «Вось і ўсё… Быў сын, а цяпер няма…»

## II

На канапе, каля адчыненага акна, ляжаў малады хлопец з шэрымі вачыма, у якіх былі толькі боль і шкадаванне. Бледны, у чырвоных ранках, твар, худое, высахлае цела. Толькі рэшткі мускулаў нагадвалі пра некалі добры фізічны стан. Рухі марудныя. Было відаць, што яму з цяжкасцю даецца кожнае фізічнае напружанне. Раней ён любіў сядзець на беразе ракі і глядзець на заход сонца. Але гэта было раней. Да катастрофы…

У пакой заглянула расчырванелая Ганна. Разам з ёю ўварваўся прыемны пах варанай бульбы і сырадою. У жываце ў хлопца сярдзіта забурчала.

— Сыночак, можа, табе нешта прынесці? — ціхенька спытала жанчына.

— Не, мамачка. Нічога не трэба, дзякуй, — адказаў хлопец.

— Праз колькі хвілінак будзе гатова вячэра. Табе сюды прынесці ці, як заўсёды, на ганку будзеш есці?

— На ганку, мамачка, на ганку, — з усмешкай прамовіў хлопец.

— Ну і добра.

У пакоі зноў стала ціха. Толькі чуваць было, як па адчыненых вокнах поўзаюць мухі.

У прысутнасці сына Ганна старалася быць вясёлай. Пасля таго, як Міша вярнуўся, яе жыццё быццам падзялілася: да і пасля катастрофы. Як і Ганна: нібыта з'явілася дзве асобы. Першая Ганна заўсёды хадзіла вясёлая, жартавала, смяялася, жвава рухалася. А другая па начах плакала: як перажыць жорсткае выпрабаванне. Міша, малодшы з яе чатырох дзяцей, быў падобны да маці больш за ўсіх. Ганна часта ўспамінала, як гэты гарэза бегаў па двары, абматаўшыся ў нейкую анучу, і ўяўляў сябе імператарам. Аднаго разу ён нават курыцу ледзь не раздушыў. Такі жвавы хлопчык! З яго твару ніколі не сыходзіла ўсмешка. Калі Ганна была засмучана, ён часта паўтараў: «Мамачка, чаму ты сумная? Жыццё вельмі кароткае, каб марнаваць час на такія дробязі. Трэба ўсміхацца. Трэба дарыць радасць сабе і людзям».

«Мішачка, якая ж у цябе прыгожая усмешка!.. Але зараз ты марудна, але згасаеш. Што ж я без цябе рабіць буду? Я ж загіну ў гэтай цемры…»

Калі-нікалі Міша знаходзіў сілы, каб прагуляцца да свайго любімага месца. Яго скалечаны твар ласкаў аксамітавы вецер. Хлопец зажмурываў вочы і з усёй моцы ўцягваў свежае паветра ў змучаныя ад кашлю лёгкія. Мяккая вільготная трава абдымала худыя ногі. У такія моманты Міша забываў, што хворы, забываў боль, пакуты. На некалькі хвілін ён адчуваў сябе здаровым, поўным моцы. Але ідылію парушаў цяжкі кашаль. Вочы страцілі бляск, шчокі асунуліся. Міша марудна ішоў дадому…

***

Ганна часта сядзела каля сына і проста глядзела, запамінаючы кожны сантыметр твару, бо сэрцам адчувала, што хутка страціць сына. Міша не праганяў, бо ведаў, што зробіць ёй балюча. Па праўдзе кажучы, яму падабалася, што акрамя яго ў пакоі нехта ёсць. Так ён не адчуваў сябе адзінокім. Пяшчотны, поўны бясконцай любові і адданасці погляд маці будзіў у ім аптымізм. Але сёння Ганна не хацела маўчаць. Міша ўбачыў па матчыным твары, што яна хоча нешта сказаць, але саромеецца, не ведае, як пачаць. Хлопец вырашыў дапамагчы ёй.

— Што ў вёсцы чуваць, мамачка?

— Ды ўчора прыходзіў Пятрусь з дачкой. Ой, Мішачка! Якая ж яна прыгожая стала! Я помню яе яшчэ з дзяцінства… Канапатая была, худая, рыжая. А зараз — кроў з малаком. Ды і ўзрост у яе шлюбны… Ты, здаецца, казаў, што яна падабаецца табе… — апошнія словы Ганна прамовіла сарамліва, не гледзячы сыну ў вочы. Ды адчувала яго строгі позірк на сваім твары.

— Мама, мы ж з табой ужо гаварылі пра гэта. Я не буду жаніцца. Не хачу пакінуць маладую жонку ўдавой…

— Ды што ж ты такое кажаш, сынок?! Табе яшчэ жыць ды жыць. У нас у хаце тры пакоі. Я магу пасяліцца ў адным і выразаць дзверы ў сенцы, каб не перашкаджаць вам. Ды і нядрэнна было б памочніцу…

Погляд сына памякчэў. Міша пагладзіў маці па твары, але нічога не адказаў. Ідэя маці захапіла яго маладое гарачае сэрца. Хлопец уявіў, як па мяккай траве бегаюць рыжавалосыя дзеці з блакітнымі вачыма. Жонка гатуе сняданак у сенцах. А на двары — смачны пах…

Лёгкія ўзарваліся кашлем.

## III

Па шырокай засфальтаванай дарозе ішла жанчына, убраная ў прыгожую летнюю сукенку, якая так пасавала яе яшчэ маладому твару. Выгляд у жанчыны заклапочаны… А вось і ваенкамат. Доўга шукала ўваход. Адчыніўшы дзверы, Ганна ўвайшла ў халоднае, цёмнае памяшканне, дзе пахла сырасцю і паперамі. На калідоры — нікога. Здалося, што яна нешта пераблытала. Рашучасць раптоўна знікла. Але ў канцы калідора з'явіўся чалавек. Ганна амаль падбегла да яго. Уважліва выслухаўшы, малады хлопец жэстам паказаў патрэбны напрамак. Праз імгненне яна стаяла каля кабінета. Сэрца моцна калацілася, рукі дрыжалі. Яна ціхенька пастукала. Раздаўся прыглушаны грубы мужчынскі голас. Ганна штурхнула цяжкія дзверы. За сталом сядзеў мужчына ў ваеннай форме, нешта пісаў. Ганна прайшла крыху ўнутр, ціхенька зачыніўшы дзверы. Мужчына, не падняўшы вачэй, павітаўся. Ганна адказала. Ён прапанаваў прысесці.

Сцены нібыта сціскаліся. У ноздры біў пах паперы. Цішыню парушыў хлопец, які рэзка адчыніў дзверы, — той самы, што накіраваў Ганну. Нарэшце вайсковец адарваўся ад сваіх папер.

— Што вас прывяло да мяне?

— Вы хочаце забраць майго старэйшага сына ў Чарнобыль. А ў яго ж толькі-толькі дзіця нарадзілася. Учора прывезлі з раддома. А малодшы мой, Міша, ужо быў там. Не забірайце Толіка. Вельмі вас прашу, — дрыжачым голасам прамовіла жанчына.

— Як завуць малодшага?

— Міша Курылюк.

Ваенны загадаў хлопцу, які ўвесь гэты час сядзеў ззаду, знайсці справу. Праз хвіліну патрэбныя паперы ляжалі на стале.

— Колькі ў вас дзяцей?

— Чацвёра: два хлопчыкі і дзве дзяўчыны.

— Добра. Старэйшага брата не будзем. Думалі браць, але не будзем. А гэты ўжо ўзяў сваё.

— Што ўзяў?

Мужчына не адказаў. Ён павярнуўся да хлопца і паспешліва прамовіў:

— Скажы шафёру, каб завёз жанчыну на вакзал. У дванаццаць будзе цягнік. На ім і даедзе.

## IV

Ганна стаяла каля пліты і гатавала любімую сынаву страву — блінцы з тварагом. Міша за некалькі тыдняў зусім аслабеў. Нічога не есць, амаль што не рухаецца. Толькі позірк на сцяну, дзе вісіць «Ліквідатар Чарнобыля». Шкляныя вочы глядзелі праз сцяну, праз жыццё. Час ад часу позірк ажываў, нібыта хлапец успамінаў нешта, але ненадоўга. Міша ўпадаў у забыццё. Свет гэты яго больш не цікавіў. Ён быў гатовы…

Нехта пастукаў. Не дачакаўшыся адказу, адчыніў дзверы. Гэта быў Іван, муж вясковага ўрача.

— Добры дзень у хату, — весела прамовіў круглы мужчына сталага ўзросту.

— Добры. Як маешся?

Іван не паспеў яшчэ нічога адказаць, як з суседняга пакоя данёсся стук, быццам нешта цяжкае звалілася.

— А Божачка ты мой! — ускрыкнула жанчына.

На падлозе ляжаў Міша. Адна рука была адкінутая ўлева, другая ляжала на канапе. Вочы заплюшчаныя, твар бледны. На імгненне Ганне здалося, што хлопец памёр. Позірк жанчыны застыў на грудзях хлопца. Яны падняліся. Марудна, але падняліся. Жанчына выдыхнула. Іван кінуўся да тэлефона — выклікаць «хуткую», а Ганна — да Мішы. Праз некаторы час прыехала машына. Увесь гэты час Ганна сядзела каля сына, гладзіла шаўковыя валасы хлопца і ціхенька мармытала песню, якую спявала яму ў дзяцінстве. На твары хлопца не засталося і следу ад нясцерпнага, пякучага болю...

Ганне не дазволілі ехаць разам з сынам. Іван патэлефанаваў Ніне, каб сустрэла «хуткую» каля бальніцы. З кожнай хвілінай гукі машыны сцішваліся, а потым увогуле зніклі. Ганна яшчэ доўга стаяла каля варот, з надзеяй і болем гледзячы ў той бок, куды павезлі яе сыночка…

Гэта была самая цяжкая ноч. Ганна доўга не магла заснуць. Буйныя слёзы сцякалі па яе маршчыністых шчоках на падушку. Стаміўшыся, жанчына заснула.

Прысніўся ёй сон: па дарозе бяжыць малады чорны конь, запрэжаны пустым возам. Буйная грыва развіваецца ў паветры, вочы блішчаць. Але куды ён бяжыць?..

Раптам перад канём узнікла чорнае, як вугаль, возера. Раптоўна конь спыніўся, азірнуўся. Яго шэрыя вочы, незвычайныя для жывёлы, смяяліся. Праз імгненне конь скочыў у возера. Далёка-далёка віднелася гара. Ён паплыў проста да яе. Даплыўшы, пачаў не азіраючыся ўзбірацца на вяршыню.

…Ганна прачнулася раптоўна. Яна адчула рэзкі ныючы боль у сэрцы, быццам адтуль нешта вырвалі.

Зазваніў тэлефон. Счакаўшы хвіліну, узяла трубку. Яна ўжо ведала, што скажуць.

Гадзіннік паказваў адзінаццаць.



Фота Кастуся Дробава.

*Лёсы старадрукаў*

# Падман выдаўцоў

**Евангелле напрастольнае, выдадзенае ў Вільні, у друкарні братоў Мамонічаў з датай 17 ліпеня 1600 г., утрымлівае некалькі загадак. Кніга пачынаецца з другога аркуша. Першага аркуша не мае ніводны захаваны экземпляр. Дата выдання, указаная напрыканцы кнігі, зманлівая, насамрэч кніга была выдадзена пазней, у канцы 1610-х — пачатку 1620-х гг. Чаму так адбылося?**



*Евангелле напрастольнае з фонду Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.*

Зазірнём у гісторыю друкавання кнігі. Евангелле напрастольнае змяшчае тэкст чатырох Евангелляў (ад Матфея, Марка, Лукі і Іаана) і расклад евангельскіх багаслужбовых чытанняў. У XVI ст. попыт на такую кнігу сярод праваслаўнага насельніцтва быў вялікі, таму ў Вільні, у знакамітай друкарні Мамонічаў, выйшла тры выданні Евангелля напрастольнага. Першае, самае прыгожае, было надрукавана Пятром Мсціслаўцам у 1575 г.

Неўзабаве пасля выдання гэтага шэдэўра Мсціславец быў вымушаны пакінуць друкарню. Паміж ім і Мамонічамі адбыўся канфлікт. Выказваецца розныя меркаванні наконт сутнасці спрэчкі: абмежаванне самастойнай дзейнасці кнігадрукара, адхіленне ад спраў друкарні, прысвойванне яго шрыфтоў і друкарскіх інструментаў, а таксама змены ў стаўленні ўрада да друку кніг для праваслаўных.

У 1583 г. друкарня Мамонічаў аднавіла работу, але дасягнуць узроўню Мсціслаўца ў мастацкім аздабленні кніг ужо не давялося. Мамонічы выдалі Евангелле напрастольнае яшчэ двойчы: адно выйшла з сапраўднай датай «17 ліпеня 1600 г.», другое надрукавалі пазней — на мяжы другога і трэцяга дзесяцігоддзяў XVII ст., але дату паставілі тую ж самую — «17 ліпеня 1600 г.». Гэтыя Евангеллі, за выключэннем пасляслоўя і некаторых акалічнасцей, паўтаралі кнігу Мсціслаўца, але іх упрыгожванні атрымаліся грубай і спрошчанай копіяй першавыдання.

Да друку кнігі Мамонічы падышлі прагматычна: узялі найтаннейшую паперу мясцовай вытворчасці, прычым і яе выкарыстоўвалі эканомна, скарацілі колькасць пустых (без тэксту) аркушаў, паменшылі аб'ём пасляслоўя і надрукавалі яго дробным шрыфтам. Малітву, якая была на першым аркушы Евангелля 1575 г., наогул не змясцілі. Друкавалі нядбайна, не вельмі клапаціліся аб прыгажосці: набор атрымаўся няроўны, арнаментальныя ўпрыгожванні аднастайныя, гравюры з выявамі евангелістаў спрошчаныя. Друкавалі, відаць, не з першага сшытка, таму памылковы пачатак кнігі з другога аркуша выразшылі не выпраўляць. Трэба было хутка задаволіць патрабаванне рынку, скарыстацца выключным правам выдання і продажу кніг у Рэчы Паспалітай і бяспошліннага экспарту. Прадукцыя друкарні разыходзілася не толькі ў Вялікім Княстве Літоўскім, але і сярод суседніх усходне- і паўднёваславянскіх народаў.

Чаму ў выданні канца 1610-х — пачатку 1620-х гг. паставілі дату «17 ліпеня 1600 г.»? Магчыма, хітрыя прадпрымальнікі не хацелі плаціць падатак з кожнага новага выдання, магчыма, мелі іншыя прычыны. У пасляслоўі паведамляецца, што выданне здзейснена «за волею и позволением» канцлера Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегі на сродкі скарбніка ВКЛ Лукі і бурмістра Віленскага Кузьмы Мамонічаў. Зразумела, што Мамонічы, якія займалі важныя афіцыйныя пасады, друкавалі ў тым ліку дзяржаўныя акты Літвы, шанавалі заступніцтва Льва Сапегі. Афішаваць сваю дзейнасць у падтрымку праваслаўя пасля Брэсцкай уніі было не з рукі. З XVII ст. друкарня выдавала кнігі для ўніятаў.

Загадкавае выданне Евангелля канца 1610-х — пачатку 1620-х гг. лічыцца даволі рэдкім, да нашага часу дайшло ўсяго 70 экзэмпляраў. Адзін з іх захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Аналіз вадзяных знакаў паперы пацвярджае высновы даследчыкаў пра больш позняе выданне кнігі. Асобнік, як і ўсе вядомыя экзэмпляры, пачынаецца з другога аркуша.

Кніга «апранута» ў пераплёт канца XIX — пачатку XX ст. з дошак, абцягнутых зялёным аксамітам. На верхнім вечку — сляды ад накладных упрыгожванняў, якія некалі складалі багатую аздобу асобніка. Кніжны блок замацоўваюць дзве металічныя зашпількі ў выглядзе літых фігурных спражак, упрыгожаных арнаментам і разьбой.

Раней асобнік захоўваўся ў прыбалтыйскіх стараабрадцаў. Яго апошнім уладальнікам быў Нікан Сарокін (1904 ці 1905 — 1974) з горада Дукштас, пра што сведчыць яго ўладальніцкі запіс. Дарэчы, у Ігналінскім раёне Літвы з XVII ст. пражываюць стараабрадцы паморскага сагласу. Кнігу Нікан Сарокін, верагодна, набыў у Фядота Захарава: «Сия книга Федота Архиповича Захарова».

У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі захоўваецца перапіска былых супрацоўнікаў аддзела Лідзіі Збралевіч і Валянціны Білевіч з Ніканам Сарокіным у сувязі з набыццём стардрукаваных і рукапісных кніг для бібліятэкі. Лісты адлюстроўваюць паважлівыя, даверныя адносіны, якія склаліся падчас перамоў.

Нікан Сарокін пачаў перапіску ў сталым узросце. Ён быў «патомным камнячосам», хлапчуком дапамагаў бацьку і брату ў гэтай цяжкай працы. Цікавіўся старадрукаванымі і рукапіснымі кнігамі, набываў іх для сваёй калекцыі. Верагодна, быў членам Дукштайскай суполкі стараабрадцаў. У лістах ён згадваў пра знаёмства з вядомымі рэлігійнымі і грамадскімі дзеячамі стараабрадніцтва Балтыі Іванам Завалокам і Іванам Ягоравым.

Вядома, што стараабрадцы вельмі шанавалі старадрукаваныя даніканаўскія выданні, але асобнік віленскага Евангелля Нікан Сарокін чамусьці не вельмі любіў. Ён настойліва паведамляў пра намер абмяняць Евангелле на Апостал ці якоенебудзь стараабрадніцкае выданне, кнігу пра пратапопа Авакума. На наш погляд, абмен нераўнацэнны, але гэта справа густу, бо кожны калекцыянер мае любыя і не вельмі любыя экзэмпляры. У лісце Нікан Сарокін паведамляў, што хоча ў сваім пакоі зладзіць выстаўку стараабрадніцкіх кніг для ўсеагульнага агляду. Ці ўдалося яму здзейсніць сваю мару, невядома.

У 1973 г. бібліятэцы пашчасціла набыць экзэмпляр цікавага выдання Евангелля канца 1610-х — пачатку 1620-х гг. І сёння мы маем магчымасць даведацца пра асаблівасці друку і афармлення кнігі, рабіць высновы пра гісторыю бытавання асобніка.

**Алена ЦІТАВЕЦ**

# Міфы — пад пытаннем

**У новай кнізе Віктара Корбута маршрут «Ад Мінска да Вільні» пракладзены не толькі ў прасторы, але і ў часе. Як атрымалася, што на картах пачатку XX стагоддзя побач з даўняй сталіцай ВКЛ з'явіўся Мінск як палітычны і адміністрацыйны цэнтр новай, адносна аўтаномнай дзяржавы? Над гэтым пытаннем журналіст разважае разам з гісторыкамі Алегам Латышонкам, Вячаславам Насевічам, Ігарам Марзалюком, а таксама знаёміць чытачоў са значнымі гістарычнымі падзеямі і нагадвае пра слынных асоб з розных стагоддзяў.**

Першае ж інтэрв'ю, прысвечанае праблеме беларускага этнагенезу, сведчыць, што аўтар добра абазнаны ў гісторыі сваёй краіны і разам з тым не баіцца засмуціць чытачоў, якія маюць рамантызаваныя ўяўленні пра мінулае Беларусі. «Віктар Корбут адсейвае факты ад міфаў і рэканструюе максімальна набліжаную да рэчаіснасці карціну гісторыі», — так Ігар Марзалюк у якасці рэцэнзента вызначае галоўную вартасць кнігі.

У выданні шмат вострых пытанняў і прамых адказаў. Дзекабрыст Павел Пестэль лічыў, што беларусы слабыя, каб стварыць сваю дзяржаву, Тадэвуш Касцюшка пісаў у лістах, што русінаў трэба прывучыць да польскай мовы... Віктар Корбут упэўнены: каб зразумець мінулае, адэкватна наблізіцца да гістарычнай рэчаіснасці, «трэба разглядаць беларускую гістарычную палітру ва ўсёй яе разнастайнасці, прыслухоўвацца да матывацыі ўчынкаў далёкіх продкаў, а не навязваць ім свае ўласныя ўяўленні». З гэтай устаноўкай вядомы журналіст абмяркоўвае праблемы нацыянальнай ідэі і нацыянальнай ідэнтычнасці, гістарычныя міфы накшталт пазіцыянавання Вялікага Княства Літоўскага як выключна беларускай дзяржавы. Але гэта толькі першы раздзел вялікай кнігі, якая мае без малога пяцьсот старонак.




Зразумела, важкі том вялікага фармату нязручна выкарыстоўваць у якасці турыстычнага даведніка. Але другі раздзел пад назвай «Сваю Айчыну ўбач і зразумей» выдатна пасуе, каб вызначыцца з мэтай сямейнай экскурсіі і пашырыць веды пра беларускія гарады і мястэчкі, дзе захаваліся архітэктурныя помнікі ды іншыя напаміны пра даўніну. Полацк, Гродна, Нясвіж, Слонім, Ружаны... Віктар Корбут распавядае пра мясціны, якія прывабліваюць шматлікіх аматараў гісторыі, згадвае і менш вядомыя аб'екты — напрыклад, вёску Ішчална, дзе знаходзіцца найстарэйшы ў Беларусі сонечны гадзіннік.

Большая частка кнігі прысвечана Мінску і Вільні. Гісторыя Мінска — гэта ў першую чаргу гісторыя архітэктурных помнікаў (узвядзенне будынкаў, змена гаспадароў, пажары, разбурэнні, аднаўленне, рэканструкцыя...). Нататкі дазваляюць уявіць, як змянялася планіроўка горада, што адбывалася стагоддзі таму побач з канкрэтнымі будынкамі. Гісторыя Вільні — фрагменты з біяграфій грамадскіх дзеячоў і вядомых прадстаўнікоў беларускай культуры, чый лёс у пэўны час быў звязаны з гэтым прыгожым горадам. Пералік пачынаецца імем Францыска Скарыны, а завяршае кнігу «Шпацыр слядамі Уладзіміра Караткевіча, Адама Мальдзіса і Генадзя Кісялёва». Літаратуразнаўца Генадзь Кісялёў жыў і працаваў у Вільні больш за дзесяць гадоў, Адам Мальдзіс і Уладзімір Караткевіч неаднойчы наведвалі сябра ў літоўскай сталіцы. У Вільні Віктар Корбут зазірае ў касцёл Святога Мікалая, прыпыняецца ля Вострай Брамы і на Замкавай гары, але найчасцей у кадр трапляюць мясціны, знакавыя для беларускай культуры.

На ілюстрацыях можна разглядзець не толькі архітэктурныя помнікі, але і архіўныя фотаздымкі, карты, рэпрадукцыі карцін, старонкі старых перыядычных выданняў, музейныя экспанаты, знойдзеныя падчас археалагічных раскопак. Кніга мае цікавы дызайн (выданне пабачыла свет у выдавецтве «Беларусь»), і кожны беларусіст будзе гартаць яе з вялікім задавальненнем.

Сярод гістарычных эсэ асабліва значным падаецца матэрыял пад назвай «Дні нараджэння рэспублікі». У цэнтры ўвагі — спробы стварэння беларускай дзяржавы ў 1918 — 1919 гады (адрэзак часу, на якім было так шмат кропак біфуркацыі, і развіццё беларускай гісторыі магло пайсці зусім у іншым рэчышчы). Віктар Корбут распавядае пра сацыяльна-палітычнае жыццё, абапіраючыся на архіўныя дакументы і газетныя публікацыі, вялікія цытаты з якіх могуць стаць неспадзяванкай для тых, хто не паглыбляўся ў вывучэнне адпаведнага перыяду. Аўтар не толькі фіксуе падзеі, якія «разгортваліся з ашаламляльнай хуткасцю і непрадказальнасцю», — прапануе супаставіць погляд на сітуацыю з розных бакоў. І зрабіць уласныя высновы!

**Юлія ШПАКОВА**

# Чалавечы знак

## паэзіі Анатоля Вярцінскага

**Лёсам мне было наканавана сустракацца і нават мець сяброўскія стасункі з Максімам Танкам, Рыгорам Барадуліным, Уладзімірам Караткевічам, Нілам Гілевічам, Алегам Лойкам, Іванам Навуменкам, Алесем Пісьмянковым… Але таксама ў маім жыцці здарыўся і Анатоль Вярцінскі.**



Упершыню пра паэта пачуў я школьнікам ад прафесара Алега Лойкі, які ўвесну далёкага 1970 года, праводзячы на ўсю Беларусь тэлеўрок па сучаснай беларускай паэзіі, сярод іншых тады ўсё яшчэ маладых паэтаў назваў і працытаваў Анатоля Вярцінскага. У далейшыя студэнцкія філфакаўскія гады ў славутым інтэрнаце на Паркавай яго вершамі і паэмамі мроіў мой сябра, яшчэ студэнт, а пазней — літаратуразнаўца Генадзь Праневіч.

Але першая сустрэча з Анатолем Вярцінскім адбылася ў Мётчанскай школе Барысаўскага раёна ў снежні 1984 года, куды я запрасіў яшчэ і Алега Лойку, Вячаслава Рагойшу і Кузьму Хромчанку. Два дні ў школе і ў мяне на мядоцкай сядзібе чыталіся вершы, ішлі бяседы і далёка за поўнач нават спяваліся песні. Помніцца, Анатоль Ільіч тады хутка пасябраваў з маім пяцігадовым сынам Янкам і падпісаў яму сваю кнігу «Час першых зорак»: «Вані — з пажаданнем добра вучыцца, быць шчаслівым. А. Вярцінскі. 8.12.84». А для Мётчы, для ўсёй нашай сям'і (спадарыні Любові і дачушкі Аленкі) пакінуў наступныя свае радкі:

*Бывайце, бывайце! —*
*Душы занылі.*
*Што мы забылі ў апошні міг?*
*Сэрца часцінку мы забылі,*
*Пакінулі мы сяброў сваіх.*

Неадножды потым у сваім жыцці паэт будзе забываць у маім і нашым лёсе не адну яшчэ часцінку свайго трапяткога сэрца. І тады, калі ў 1988 годзе на пасадзе галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» (што выходзіў у тыя гады з рэкордным амаль дваццацітысячным накладам) дашле ў Мётчу ліст: «Мінск, 23 лютага. Добры дзень, Уладзімір! Дзякуй за вестку, за прыемны напамін аб нашай сустрэчы ў Мётчы. Як справы Вашы — у школе, дома? Інфармацыю аб сустрэчы з Рыгорам Барадуліным надрукуем. Усяго добрага! Паклон Вашай сям'і! А.Вярцінскі», і тады, калі ўжо пры наступным рэдактары «ЛіМа» Міколу Гілю паспрыяе друкаванню майго артыкула «Паклон Максіму Багдановічу», і, нарэшце, заўсёды тады, калі будуць адбывацца нашы абавязковыя, амаль штогадовыя, узаеміны 18 лістапада. А адным нядаўнім лістападам Анатоль Ільіч прачытаў мне жартоўныя і вельмі бадзёрыя імяніннія радкі:

*Я паспрачацца нават гатоў,*
*Напрыклад, даводзіць буду,*
*Што справа не ў колькасці гадоў,*
*А ў стане суставаў і сасудаў.*

Часта ўзгадваецца паэтаў верш «Мы, мёд і пчала». Неяк я прачытаў яго свайму бацьку, Лайкову Піліпу Рыгоравічу, на пятнаццаць гадоў старэйшаму за паэта. Сёлета якраз яму б споўнілася сто гадоў. Дык вось майму бацьку, у жыцці сваім апантанаму пчаляру, вельмі ўжо даспадобы прыйшоўся гэты верш. Ён сам заўсёды быў справядлівым і паэтаў сумленных, цікавых і мудрых шанаваў. І таму вельмі ўжо радаваўся такой нечаканай творчай знаходцы Анатоля Вярцінскага.

Так склалася, што любімай маёй кнігай паэта была, ёсць і будзе «Чалавечы знак» 1968 года выдання, якую выдатна аформіў мастак Арлен Кашкурэвіч. З юнацкіх яшчэ гадоў яна неаднойчы прачытана і перажыта і хвалюе сваімі вершамі, вобразамі, мудрай філасофіяй. Асабліва ж верш «Дзве паралельныя прамыя». Я сам па натуры, складзе душы і жыццёвай прафесіі застаюся перакананым гуманітарыем. Ніколі, прызнацца, дакладныя навукі не вабілі. Але калі перад тэхнарамі-ўнукамі гэта згадваць не хочацца, а, наадварот, узнікае патрэба слова-другое сказаць у знак прэстыжу, напрыклад, геаметрыі, то ўдаецца гэта, успамінаючы «Дзве паралельныя прамыя» паэта. І не толькі таму. Бо верш гэты, дзе, па прызнанні Анатоля Вярцінскага, «…ад крыўды за вас маё сэрца ные, дзве паралельныя прамыя» ўсё-такі не пазбаўлены касмічнага аптымізму:

*Бачу вышэйшую гармонію.*
*Бачу: сустрэліся, як жывыя,*
*Дзве паралельныя прамыя.*
*Бачу: заззялі, як праменныя,*
*Тыя прамыя паралельныя…*

Асаблівы ж сэнс філасофскай выключнасці гэтай думкі паэта адчуў, калі пятнаццаць гадоў таму ў сваім эсэ «Кожнаму сваё, або ці Выпадзе калі сустрэцца журавам і гілям над Мядоцкай школай» пісаў: «…Тымі амаль ужо зімовымі днямі і вечарамі я ўсё часцей і часцей прыглядаўся да нашых школьных клёнаў: вось-вось сёння ці заўтра павінны былі прыляцець з далёкай поўначы чырванагрудыя гілі. Яны прылятаюць заўсёды, абавязкова кожны год, кожную зіму. Вось толькі шкада (часам аж плакаць хочацца) — шляхі-дарогі жураvoў і гілёў ніколі не перасякаюцца. А так бы хацелася хоць раз пабачыць іх разам. Таму застаецца верыць ва ўдачу, самааддана працаваць, рабіць усё, што робяць усе, але рабіць так, як не робіць ніхто. І тады нечакана здарыцца цуд: сустрэнуцца над нашай школай журавы і гілі».

Бо хіба гэта не цуд — доўгія гады слухаць, чытаць і чуць таленавітага і самабытнага паэта-мудраца, паэта-філосафа Анатоля Вярцінскага. Бо амаль трыццаць тры гады мінула з нашай той першай сустрэчы ў Мётчы, але:

*Дзень той надзвычай светлы*
*Кожны з нас у жыццё забраў.*
*А маладзік вечарам ветлы*
*На небе мядоцкім заззяў.*

*Той сярпок-веташок узнікае*
*Больш за трыццаць гадоў у рад.*
*Часам учора быццам сёння бывае —*
*Ах, як хочацца зноўку назад!*

*Туды, дзе Вярцінскі верлібры чытае,*
*Дзе дынамік у хаце гучыць.*
*Кропка-радыё яшчэ не сціхае*
*І аз, букі, ведзі трэба вучыць,*

*І дзівак-чалавек не знікае,*
*Бо гэта яго чалавечы знак.*
*Вось Анатоль Ільіч замаўкае,*
*Каб «Рэквіем» свой прачытаць.*

*А потым было ў салдата два полі,*
*І кожны чацвёрты з вайны*
*не прыйшоў.*
*А хлопчык глядзіць паволі*
*У зорнае неба зноў.*

*Ды тут паралельныя прамыя,*
*Што сустрэцца не могуць ніяк…*
*Як дзень, больш за трыццаць*
*гадоў пралятае,*

*Зноў Мётча:*
*«Дзень добры, дзеці, гэта — я!».*

Хай здарыцца гэты новы цуд!..

**Уладзімір ЛАЙКОЎ,**
**настаўнік, выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь, кіраўнік музея «Літаратурны космас Мётчы»**

З нагоды

# У СУАЎТАРСТВЕ З ЧЫТАЧОМ

**Ці шмат вы ведаеце навуковых дапаможнікаў, якія можна было б назваць цікавымі для шырокага кола чытачоў? Звычайна навука занадта сумная для дзіцяці і вузка скіраваная для дарослага.**

Але чарговая кніга Віктара Кажуры «Азбукоўнік» (Грамадскае аб'яднанне «Беларуская асацыяцыя "Конкурс"», 2015 год) — цікавая спроба аб'яднаць займальныя і карысныя матэрыялы пад адной вокладкай.

Звяртаючыся да лепшых традыцый народнай і прафесійнай педагогікі, В. Кажура прапануе дзецям і бацькам, вучням і настаўнікам — усім разам — даведацца гісторыю ўзнікнення літар, заняцца вывучэннем беларускага правапісу, папоўніць лексічны і фразеалагічны запас, пазнаёміцца з цікавымі асобамі і іх выказваннямі, разгадаць загадкі, крыжаванкі і рэбусы:

*Праз горы, даліны,*
*Праз тысячы сёл*
*З далёкай краіны*
*Вярнуўся пасол.*
*Спаважны, чыноўны,*
*Ён стаў на страсе,*
*У ботах чырвоных,*
*Каб бачылі ўсе.*




Аўтар увесь час знаходзіцца ў цеснай сувязі з чытачом, засяроджвае ўвагу на галоўных тэарэтычных паняццях, задае пытанні і далікатна падводзіць да правільных адказаў. А маленькія чытачы ў працэсе забаў-навучання становяцца яшчэ і суаўтарамі кнігі, пакуль пішуць уласныя гісторыі пра літары, малююць іх выявы і складаюць вершы. Прыкладам для іх сталі тэксты В. Зеньчык, А. Прохаравай, М. Рыжанковай, А. Собаля і Д. Філімонавай.

Дарослыя чытачы знойдуць у «Азбукоўніку» свайго сябра-метадыста. Афарызмы, правілы, пераказы, пераклады, падабраныя аўтарам-педагогам, — сапраўдная знаходка для тых, хто не проста вучыць беларускай мове, але і выхоўвае патрыётаў: «А яшчэ быў у Беларусі такі сусветна вядомы род, як Радзівілы. Хто яны? Якімі былі гэтыя людзі? Пра гэта мы даведаемся, калі напішам дыктант».

Гэта кніга — яшчэ і прыклад мастацкай творчасці члена Саюза пісьменнікаў. Вершы-прывітанні, даступна напісаныя артыкулы, цікавыя культуралагічныя матэрыялы створаны з павагай і любоўю да Беларусі.

Магчыма, камусьці не спадабаецца некаторая несістэматычнасць падачы матэрыялу, аднак яе аўтар не прэтэндуе на энцыклапедычнасць, вызначаючы ўласны твор як кніжку-чытанку. І паверце: чытаць яе можна з задавальненнем!

**Бажэна МАЦЮК**

# ...Парадоксаў сябра

## Разгадкі твораў Георгія Скрыпнічэнкі



«Яна прыйдзе», 1985 — 1995 г.

Яго ў кулуарах часта называлі беларускім Сальвадорам Далі. Сёння ж сябры творцы кажуць, што са славутым іспанцам яго можна было параўноўваць толькі па знешнім падабенстве, але ў мастацтве ён быў і ёсць менавіта Георгій Скрыпнічэнка са сваёй вялікай скарбонкай ідэй, ведаў і творчых магчымасцей. Да гадавіны смерці мастака ў Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстаўка «Метамарфозы». Да выстаўкі прымеркаваная і прэзентацыя альбома «Георгій Скрыпнічэнка. Графіка», у які ўвайшлі каля двухсот твораў арыгінальнай і тыражнай графікі, якія адлюстроўваюць творчыя дасягненні майстра больш чым за сорак гадоў.

На адкрыцці выставачнага праекта ў новым будынку Мастацкага музея сабраліся блізкія, сябры і калегі, каб успомніць таленавітага майстра, аддаць даніну павагі яго творчай спадчыне і асаблівай манеры, якая неадночы захапляла гледачоў свету. У экспазіцыі — больш як пяцьдзясят станковых жывапісных і графічных твораў, створаных у розныя перыяды — ад ранняга (час пошуку вобразаў, стылю, тэм) да сталага (калі ёсць і тэмы, і вобразы, але ж яны пераасэнсоўваюцца майстрам).



«Радзіма ў пакутах», 1969 — 1970 г.

Калі гаворка заходзіць пра сюррэалізм у беларускім мастацтве, то ў першую чаргу ўспамінаюць творы Георгія Скрыпнічэнкі. Яго творчасць неардынарная: тут ёсць месца казачным сюжэтам, біблейскім і міфалагічным персанажам, вядомым гістарычным асобам, вобразам сучаснікаў і тэмам класічнага мастацтва. Углядаючыся нават у адзін твор, спрабуеш аб'яднаць мноства самастойных, цэласных дэталяў у агульны сэнс і, калі атрымліваецца скласці гэтыя «пазлы» ў агульны малюнак, разумееш, што Георгій Скрыпнічэнка — геній. Ён абсалютна ненадакучліва звяртае ўвагу на велізарны пласт тэм, сітуацый, якія кранаюць душу і заклікаюць не згубіць унутранае адчуванне любові да мастацтва, гісторыі і радзімы. Мастак размаўляе з табой праз кампазіцыю.

У гісторыю беларускага мастацтва Георгій Скрыпнічэнка ўвайшоў як майстар містыфікацыі і парадаксальнасцей. Яго дзіўныя героі, неверагодныя спалучэнні вобразаў, смелая дэфармацыя аб'ектаў і людзей і ў рэшце рэшт сумяшчэнне несумяшчальнага (своеасаблівы мастацкі аксюмаран) разам складаюць почырк аўтара.

Мастацтвазнаўца Наталля Шаранговіч адзначыла, наколькі для Беларусі знакавая творчасць аўтара і важная памяць пра яго:

*— Абаянне Георгія Скрыпнічэнкі было велічэзнае як чалавека, як творцы. І мне падабалася, што ў ім заўжды жыла нейкая загадка. Мы ўсе — калегі, сябры, мастацтвазнаўцы — шматгадова імкнуліся разгадаць код Скрыпнічэнкі, разгадаць, як уздзейнічае магія яго творчасці, адкуль вырас такі загадкавы, цікавы еўрапейскі мастак, які вучыўся ў звычайнай школе і скончыў наша мастацкае вучылішча, які працаваў у нашай паўсядзённасці, але, тым не менш, бачыў яе абсалютна інакш. У яго быў свой шчыры погляд на ўсё. У работах творцы любоў да радзімы вельмі адчувальная, вельмі кранальная. Да апошняга ён заставаўся загадкавым мастаком, таму што яго вобразы шматслойныя і прачытваюцца па-разнаму. У работах Георгія Скрыпнічэнкі няма цытат, хоць, канечне, калі мы на іх глядзім, то бачым, што ён добра адчуваў мастацтва XX стагоддзя. Гэта быў сапраўдны мастак постмадэрнізму. Мы можам ганарыцца тым, што гэты чалавек жыў на нашай зямлі, што ягоная спадчына засталася і, спадзяюся, застанецца на радзіме і далей. Звычайна, чалавек сыходзіць, і мы з горычцу ўсведамляем, што многае не паспелі: не набылі яго творы, не выдалі належныя кнігі. Я радая, што творчасць Георгія Скрыпнічэнкі захавалася ў выданнях, якія былі створаныя, дарэчы, пад наглядам аўтара. Ёсць дзве кнігі, адна з якіх выйшла некалькі гадоў таму, а другая — пасля смерці, і мастак хацеў, каб яна была. Гэта вялікая справа, таму што калі ёсць карціны, кнігі і сведкі пра творчасць майстра, мастак жыве, і яго творчасць бясконцая.*

Дзяцінства і юнацтва Георгія Скрыпнічэнкі прайшло ў Слуцку, дзе мастака ведаў амаль увесь горад як стылягу, які насіў вузкія штаны. Менавіта такім, дзёрзкім і вясёлым, ён пачаў наведваць разам з братамі Басалыгамі студыю мясцовага Палаца піянераў, дзе ўсур'ез захапіўся мастацтвам. Творчасць настолькі ўпісалася ў жыццё будучага майстра, што любую вольную хвіліну ён спрабаваў маляваць — на тым, што трапляла пад рукі. Аднойчы бацька адправіў мастака працаваць на будоўлю ў Салігорск, дык нават там хлопец прымудраўся ствараць невялічкія эцюды, якія пасля прысвяціў першаму настаўніку жывапісу. Пасля ў жыцці аўтара з'явіліся такія дарагія выкладчыкі, як Альгерд Малішэўскі, Леанід Шчамялёў, якія ўбачылі яго талент і дапамаглі развіць мастацкія здольнасці.

Неверагодная цяга да родных мясцін у Георгія Скрыпнічэнкі захоўвалася ўсё жыццё: падарожнічаў па Беларусі, часта выязджаў з калегамі на прыроду, дзе ў дзень мог напісаць каля дваццаці эцюдаў.

Да тэмы нацыянальнага мастак звярнуўся ў творах не адразу. Дзесьці ў 1980-я гады прыцягнулі беларускія традыцыі, стылістыка, мова. На гэта паўплывалі сябры мастака, якія размаўлялі на беларускай мове, узнімалі шырокі пласт тэм, важных для краіны. Ён не застаўся ўбаку, сам пачаў актыўна папулярызаваць родную культуру.

Адна з самых каштоўшных рыс мастака, пра якую так часта распавядаюць яго сябры, — адсутнасць занадта высокай самаацэнкі. Майстар не любіў вялікай увагі да сябе, не любіў, калі яго называлі геніяльным альбо лепшым. Нават калі мастацтвазнаўцы адзначалі, што ён задаў своеасаблівую хвалю творчасці для сваіх сяброў Уладзіміра Савіча, Мікалая Селешчука, Уладзіміра Тоўсціка і іншых, творца заўсёды казаў, што нічога не прапагандаваў наўмысна, а тым больш не задаваў ніякіх хваль, усе развіваліся паралельна, а калі нешта падглядалі адзін у аднаго, то гэта была сяброўская ўзаемадапамога.

Георгій Скрыпнічэнка — асоба, якая больш за ўсе даражыла свабодай — унутранай і творчай. Для яго не мелі значэння грошы, слава і прызнанне, а важна было, каб любоў да любімай справы жыла ў душы. Былі ў жыцці моманты і сітуацыі, якія маглі яго ўнутраную свабоду загубіць, але ён застаўся верным сабе, ніколі не адмаўляўся ад сваіх прынцыпаў.

**Вікторыя АСКЕРА**

# АГАЛЕННЕ ДУМАК



«Максім Танк — 1936 г.», 2016 г.

**«Дыялогі» — выставачны праект скульптара, дацэнта кафедры скульптуры Беларускай акадэміі мастацтваў Аляксандра Фінскага. Назва невыпадковая: дыялогі — канцэпцыя творчасці скульптара. Выстаўка дэманструецца ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў і складаецца з васьмідзесяці экспанатаў.**

Як казаў на адкрыцці загадчык кафедры скульптуры Акадэміі мастацтваў Уладзімір Слабодчыкаў, скульптура Аляксандра Фінскага — гэта агаленне думак, ідэй перад людзьмі і нават перад самім сабой. Творца адкрывае сваю душу не кожнаму, а тым, хто зразумее яго ідэю. Акрамя скульптуры, мастак займаецца і графікай, якая таксама экспануецца на выстаўцы. Графічныя работы хутчэй за ўсё будуць рэалізаваныя ў скульптуру.

«Мастак, калі бярэцца за працу, перш за ўсё пачынае дыялог з самім сабой, — распавядае Аляксандр Фінскі, — разважае, што яму рабіць і як, а потым звяртаецца да матэрыялу. Матэрыял — таксама дыялагічны складнік: калі не разумееш яго асаблівасцей, ён адказвае тым жа. Тым больш у кожнага матэрыялу свае пластычныя асаблівасці, і калі ўлічваеш іх, гэта надае твору большую выразнасць. Паверце, у скульптуры ёсць усё. Вам, можа, здаецца, што гэта не жывапіс, але кожная праца мае асаблівы колер, кампазіцыю, таніроўку і прастору».

Цэнтральнае месца на выстаўцы займае міні-копія скульптурнай кампазіцыі «Вячэрні блюз», якая знаходзіцца ў Пекіне. Натхнёная постаць саксафаніста адкідае доўгі цень, уманціраваны ў тратуар. А з ценем нараджаецца мелодыя. Паводле мастацтвазнаўцаў, менавіта гэтая работа з'яўляецца квінтэсэнцыяй творчасці Аляксандра Фінскага.

Далей, гуляючы па выстаўцы, сярод грацыёзных танцоўшчыц, пяшчотных анёлаў натрапляеш на скульптуру маладога Максіма Танка. Ідэй для кампазіцыі стаў фотаздымак пісьменніка 1936 года, калі толькі пачынаўся яго творчы шлях. Скульптар паказвае яго такім: Максім Танк, малады і сур'ёзны, ідзе па зусім тонкім шкле, якое ад любога неасцярожнага руху можа трэснуць, але ж ідзе спакойна, з годнасцю…

**Вікторыя АСКЕРА**

# Сабраць свет з аскепкаў

**Асноўны конкурс «Лістапада» прадставіў лепшыя стужкі з краін, якія блізкія нам па недалёкім мінулым ці сучасных кантэкстах, але паехаць у іх, мы, можа, ніколі і не збяромся: Кыргызстан, Балгарыя, Казахстан, Чэхія, Славакія, Эстонія, Малдова, Венгрыя, Румынія, Кітай. На «Лістападзе» гледачы наўпрост збіралі свет з аскепкаў. І не толькі геаграфічны, але і ўласны. Кіно прапанавала жыхарам Беларусі параўнаць свае традыцыі з іншымі, ацаніць вагу маральных каштоўнасцей, асэнсаваць мінулае і ў рэшце рэшт лепш зразумець сябе. Пра што яшчэ гавораць нам замежныя рэжысёры?**

Пераможцам у асноўным конкурсе (і «Золатам “Лістапада”») журы назвала карціну венгерскага рэжысёра Бенедэка «Бенцэ» Флігауфа «Лілі Лэйн». Стужка, якая нагадала, што кіно — гэта аўтарскае мастацтва: сам рэжысёр быў стваральнікам сцэнарыя, задаваў сэнс размовы з гледачом пра тыя рэчы, што адгукнуцца ў сэрцах людзей у любой краіне. І паказаў, што дапамагае аўтару фільма быць адначасова зразумелым і арыгінальным: **асаблівая кінамова**.

Менавіта дзякуючы ёй мы сочым за гісторыяй адносінаў Рэбэкі і яе сына Дані. Гэта так кранальна: маці і сын размаўляюць праз казкі і фантазіі, распавядаюць рэальныя гісторыі (якія гучаць ці то як казкі, ці то здаюцца фантазіямі), у іх уплятаюцца ці то сны, ці то трызненні, на іх накладваюцца ўспаміны і выяўленыя ў вобразах адчуванні. З усяго гэтага, нібыта з фрагментаў разрэзанай карціны, глядач складае сюжэт жыцця маці і яе сына. У Дані была бабуля, якую ён (відаць) не ведаў, але разам з маці яны хаваюць яе прах — з любоўю. У яго ёсць і дзядуля, якога малы не бачыць, але яго мама хоча распарадзіцца домам, што застаўся ў спадчыну, і просіць пра гэта дазволу бацькі (які там не жыве). Ідылія стасункаў маці (якая так зачароўвае) і сына рассыпаецца, калі яна пасля сустрэч пакідае сына ля нейкіх дзвярэй… Змрочнае (з жахлівай казкі) мінулае нібыта даганяе Рэбэку і выходзіць гучным крыкам — праз расчыненыя дзверы дома, з якога яны разам з малым выкідваюць усе старыя рэчы… У гэты момант эмоцыя рвецца вонкі — у плыні ўласных казак, гісторый і сноў, што праходзяць нон-стоп. Кіно нагадала: самае чароўнае мастацтва, якое стварае кожны чалавек у любой краіне, — жыццё.

Зусім іншае кіно пра сплеценасць сямейных лёсаў — «Бацькаў запавет» з Кыргызстана. Фільм, які знаёміць **з традыцыямі сваёй краіны** (за што адзначаны дыпломам). Рэжысёры ўзялі ідэю з жыцця: у вёсцы, убачыўшы закінуты дом з садам, зразумелі, што за кожным такім домам — лёс асобнага чалавека. Шлях фільма быў цяжкім для здымачнай групы: ад ідэі да рэалізацыі прайшло 3 гады, 2 з іх — на пошук фінансавання. Але ў выніку атрымаўся фільм-роздум пра тое, чаму дзеці павінны расплачвацца за грахі бацькоў. І пра тое, што дзесьці захаваліся традыцыі, якім надаецца вартая ўвага; дзесьці існуе неверагодная гасціннасць, якая перамагае ў спаборніцтвах з дрэннымі ўспамінамі пра чалавека; дзесьці ёсць месцы, куды вяртаешся з вялізнай ахвотай і жаданнем застацца. «Бацькаў запавет» адказаў на галоўнае пытанне: ці можна запаліць святло не толькі ў старым бацькоўскім доме, але і ў душы — сваёй і чужой.

Кіно дазваляе адчуць іншыя народы і іх традыцыі, зразумець, чым мы падобныя. Гэта пацвярджае гісторыя казахстанскай сучаснасці, расказаная рэжысёрам Адыльханам Ержанавым. Малады акім даследуе эпідэмію чумы і шчыра хоча з ёю змагацца. Але разумее, што хвароба — гэта лад жыцця людзей, традыцыя, выкараніць якую немагчыма. У стужцы ёсць словы: «Вялікія народы заўжды на мяжы». Акім, які працягвае спробы змагацца з хваробай (свядомасці), атрымлівае за сваю барацьбу толькі кпіны і сутыкаецца з нежаданнем змяняць рэчаіснасць. Фільм зняты за $6000, але нават пры мінімальным бюджэце можна ўздымаць складаныя і актуальныя для грамадства пытанні.

Пра вечныя **маральныя каштоўнасці** гаварылі стваральнікі балгарскага фільма «Слава» (прыз глядацкіх сімпатый «Бронза “Лістапада”»): гонар і сумленне ў барацьбе з кар'ерызмам, славалюбствам. Нягледзячы на тое, што фільм працяты іроніяй і сарказмам, у ім хапае трагізму — роздумаў пра тое, што адбываецца з нашымі духоўнымі каштоўнасцямі. Цанка Пятроў працуе пуцявым абходчыкам на чыгунцы. Яму шанцуе: мужчына знаходзіць шмат грошай, але забіраць іх не хоча — усё ж сумленне перавагае. Цанка становіцца героем, атрымлівае ўзнагароду — гадзіннік ад міністра транспарту. Пасля гэтага на героя забываюцца. Але ў Пятрова забралі стары гадзіннік «Слава», падараваны бацькам. Пошукі гадзінніка ператвараюцца ў пошукі часу — не свайго, а супрацоўнікаў міністэрства, якія каштоўную рэч шукаць і не плануюць. Сюжэт спрэсаваны ў некалькі сказаў. Але кіно нашмат глыбейшае, вострае і нават жорсткае: ілюструе, як паняцце «слава», замацаванае ў назве папулярнай рэчы, ператвараецца ў асуджэнне.

Пра тое, як супрацьстаянне **чалавека і соцыуму** пераходзіць з маральнага ўзроўню на фізічны, хацелася разважаць пасля прагляду чэшскай стужкі «Я, Вольга Гепнарава», якая адзначана на Мінскім кінафестывалі прызам «За лепшую рэжысуру». Томаш Вайнрэб і Петэр Казда звярнуліся да падзей, калі маладая дзяўчына, што ніякім чынам не ўпісвалася ў соцыум, вырашыла кінуць яму выклік праз масавае забойства. Засяроджанасць Вольгі на сабе і сваіх жаданнях прывяла да таго, што дзяўчына не знаходзіць кантакту з блізкімі, не мае сяброў і атручвае сябе нянавісцю да людзей. Актрыса Міхаліна Альшанска вельмі пераканаўча спраўляецца з роляй (складанасць якой абумоўлена тым, што шмат якія падзеі з 22-гадовага жыцця Вольгі застаюцца за кадрам, мы бачым толькі рэфлексію на іх), таму адзначана прызам «За лепшую жаночую ролю».

Не збіраецца мірыцца з жыццём у грамадстве герой «Чырвонага павука». Дзеянне фільма адбываецца ў 60-я гады, і стужка выглядае вельмі «нуарна», як і задумаў польскі рэжысёр Марцін Кашалка. Здавалася б, «Чырвоны павук» па сюжэце нагадвае звычайны дэтэктыў: забойца і яго пераслед. Але гэта не класічны крымінальны фільм, а карціна, якая паглыбляе ў цемру чалавечай душы.

Малады Караль Крэмер — «выдатнік», плывец-чэмпіён — збіраецца паступаць у медыцынскі, любіць сваіх бацькоў (ідэальны хлопец). Яго ідэальнасць падмацоўваецца: Караль высачыў забойцу, якога не можа знайсці міліцыя. Але, да вялікага расчаравання, хлопец не збіраецца «здаць» злачынцу — яму цікава, хто ён, чым жыве, што робіць, навошта забівае. Так сяброўства Крэмера з забойцам ператвараецца ў нейкую неверагодную гульню з уласным розумам галоўнага героя, з думкамі, якіх не павінна было з'явіцца. Караль насамрэч не вывучаў забойцу — праз забойцу нібыта вывучыў сябе…



*Кадр з фільма «Lily Lane».*

Каб **асэнсаваць час**, неабавязкова быць дарослым. Часам маладыя бачаць нашмат больш, чым тыя, хто шмат пражыў. Эстонская стужка «Дні, што збілі з панталыку» «выбухнула» не толькі ў сваёй краіне, але і за мяжой. Мы трапляем у 90-я. Ліхія, амаль забытыя… Кіно, якое адпавядае таму часу не толькі па знешнім выглядзе герояў, але і па духу, кіно, якое атрымалася вельмі «мужчынскім» і ў плане галоўных герояў з іх поглядамі, але зробленае маладой жанчынай Трыйн Руумет. Рэжысёр займалася стварэннем кліпаў — можа, гэта дапамагло ёй захаваць на ўласнай стужцы музычнасць, рытм, але і тую самую кліпавую свядомасць, з якой мы зараз сутыкаемся. Можна адзначыць, што шлях героя стужкі — гэта і жыццё сучаснай Эстоніі, якая з перыяду хаосу пераходзіць у дарослае жыццё. Акрамя таго, «Дні, што збілі з панталыку», — ода маладосці, бесклапотнасці і свабодзе. Героі фільма кажуць, што «ўсё ёсць суцэльная тусоўка», таму «адрываюцца» як могуць, марнуюць час за выпіўкай і танцамі. Пра далейшае жыццё падумаюць апасля…

Тэму маладосці і асэнсавання часу працягвае і малдаўскі фільм «Анішаара», у якім узнятыя і праблемы ўзросту, і пошуку сябе, і сталення дзяўчыны. Стужка зроблена неверагодна тонка і лірычна, з пейзажамі, якія зачароўваюць. Але разам з натурай кіно звяртае нас і да тэмы традыцый — у «Анішаары» шмат малдаўскага: аўтэнтычныя вясковыя забавы, збор кавуноў, якія потым ядуць на хуткасць. Шмат кахання, але столькі ж і абыякавасці — тыповы трохкутнік. Для маладой дзяўчыны безадказнае каханне — трагедыя. Цяжка бачыць, як «той самы» з'язджае з сухім сланечнікам у багажніку матацыкла. Дзяўчына шукае свайго каханага, знаходзіць, губляе і пакутуе — усе цыклы пройдзеныя. Далей трэба пасталець.

«Атэстат сталасці» румынскага рэжысёра Крысціяна Мунджыу — узор **новай эстэтыкі** кінематаграфічнай прасторы. Зараз румынскае кіно заяўляе пра сябе як пра моцны кінематограф, а Крысціян Мунджыу — адна з галоўных фігур у сусветнай індустрыі, тройчы ўзнагароджаны на Канскім кінафестывалі. «Атэстат сталасці» (на «Лістападзе» фільм атрымаў тры ўзнагароды) — стужка не толькі актуальная, але і сучасная суадносна таму, што адбываецца зараз у кожнай краіне ці сям'і. Бацька не жадае дачцэ свайго жыцця, таму хоча, каб яна з'ехала з Румыніі. Але не разумее, што яго добрыя памкненні могуць прыносіць боль дачцэ. У яе свая галава на плячах. Як вынік — герой робіць па-свойму, ледзьве не губляе сям'ю, давер дачкі і нават уласны гонар. Часам падаецца, што кіно, якое Мунджыу зняў пра маладую дзяўчыну, зусім не пра яе, а пра тое, як «атэстат сталасці» атрымлівае і яе бацька: як ён мірыцца з рашэннямі дачкі, вучыцца ісці на кампраміс, нясе адказнасць за ўчынкі.

Вывучыць сацыялогію і антрапалогію з дапамогай кіно зараз вельмі лёгка: рэжысёры працягваюць звяртацца да чалавека з яго праблемамі. Асоба — вось, што цікавіць сусветных рэжысёраў.

У кітайскай стужцы «Я не мадам Бавары» гісторыя аднаго чалавека становіцца справай ледзьве не ўсёй краіны. У моманты, калі пераход ад прыватнага да эпічнага адбываецца ў гісторыі, тое ж здараецца і з экранам, які змяняе свае рамкі, — наогул пабудова кадра ў стужцы адсылае да кітайскага жывапісу. Гэтае кіно пяшчотнае і жорсткае адначасова, так званая ода абсурду нашага жыцця. «Я не мадам Бавары» — у першую чаргу свята аднаго чалавека, у імя справядлівасці да яго. Гераіня хоча быць пачутай: у яе ёсць справа да дзяржавы, але чамусьці звязвацца з ёй ніхто не хоча, улады бягуць ад адказнасці, бо асноўнае правіла: «Усё зводзіцца да аднаго слова — цярпенне». Але не, не да аднаго: «Да пяці словаў: цярпець, пакуль не пачне балець». Кажуць, час вылечвае раны. Тут не той выпадак: памяць застаецца, застаецца нявырашаная праблема. Мінулае ператварылася ў дым, «усё скончылася, але нічога не вырашылася»…

Чалавек ва ўсёй яго шматграннасці паказаны ў румынскім фільме «Сьераневада». Тут шмат паўсядзённасці, савецкая кватэра, у якой, здавалася б, месца для камеры няма. Часам здзіўляешся, як можна было паказаць той ці іншы эпізод, як аб'ектыў змог убачыць гэтыя дробязі? «Сьераневада» — вялікі пазл, які трэба сабраць. Сабраць з размоў пра адпачынак у Тайландзе, з пробак на румынскіх вуліцах, з непаказаных, можа, няважных, паходаў у крамы, з размоў пра палітыку на нашых кухнях, з кахання, нянавісці. З нашых бясконцых спрэчак. Фільм, які настолькі блізка, настолькі зразумела і дакладна паказвае нам нас саміх, — гэта проста. Як і ўсё геніяльнае. Глядзець на тое, як развальваецца на дробныя аскепкі, а пасля збіраецца зноў вялікая сям'я, не толькі цікава, але і абавязкова — усе недахопы, якія скасавалі героі фільма, можна будзе паспрабаваць скасаваць у жыцці.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Ідэнтыфікацыя праз

**…Калісьці Адам Міцкевіч прыйшоў да Гётэ (які займаў высокую пасаду), яны размаўлялі 3 гадзіны, хоць звычайна ў вядомага тады нямецкага пісьменніка гэта займала максімум паўгадзіны. Пасля Міцкевіч напісаў «Свіцязянку». У аснове паэмы, што ўвяла яго ў сусветную літаратуру, быў народны сюжэт…**
**Колькі яшчэ падстаў для творчасці захоўвае беларускі фальклор, а колькі іх можа быць страчана — з прычыны, што сыходзяць пакаленні, для каго гэтая культура стала часткай жыцця. Але з'яўляюцца тыя, хто, разумеючы гэта, імкнецца вывучыць, занатаваць: беларускі фальклор сталі даследаваць з XIX стагоддзя, збіраць (выдавалі, напрыклад, зборнікі песень), асэнсоўваць і інтэрпрэтаваць у мастацкіх творах (што рабілі літаратары і кампазітары). За савецкім часам са стварэннем Інбелкульта вялася актыўная экспедыцыйная праца па рэгіёнах. Пасляваенны перыяд даў імёны апантаных фалькларыстаў, якія разумелі, што можа страціць народ, ехалі ў глыбінку адшукаць скарбы.**
**І мы ўсё яшчэ можам радавацца: у Беларусі дагэтуль захоўваюцца ўзоры аўтэнтычнага фальклору ў яго натуральным існаванні. Гэта прыцягвае да нашай краіны ўвагу шматлікіх замежных спецыялістаў. Яны наўрад ці задумваюцца: ці надоўга гэтыя скарбы застануцца з намі? Нашы даследчыкі разумеюць рэальны стан спраў, таму ў захапленні багаццем, што немагчыма вымераць матэрыяльнымі велічынямі, клапоцяцца пра захаванне ўзораў традыцыйнай культуры.**
**Падчас круглага стала ў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» ішла гаворка пра захаванне і папулярызацыю беларускага традыцыйнага каляндарна-абрадавага фальклору.**



**Юрась Выдронак, фалькларыст, стваральнік фольк-мадэрн гуртоў «Палац», «Крыві», «Юр'я», кіраўнік праекта «Таўкачыкі»:**

— Самая галоўная праблема цяпер у тым, што традыцыйная культура, якая існавала сотні гадоў, нават тысячагоддзі, пад уплывам урбанізацыі хутка знікае. За апошнія 30 — 40 гадоў адбыліся фатальныя змены, я іх адчуваю, прынамсі, па тым, што скарачаецца колькасць удзельнікаў у фальклорных гуртах, што працуюць з аўтэнтыкай, скарачаецца дыяпазон выканаўцаў. Ужо не кажу пра тое, што знайсці аўтэнтычныя танцы зараз — праблема. Сыходзяць абрады, рытуалы. Фальклору аўтэнтычнага, у тым выглядзе, у якім ён быў яшчэ гадоў 15 — 20 таму, ужо няма. Калі мы нічога не зробім у найбліжэйшы час, то за некалькі гадоў можам страціць усё. Таму варта думаць найперш пра захаванне фізічнае: відэа- і аўдыяфіксацыю на прафесійную тэхніку выканання народных песень іх рэальнымі носьбітамі. У нас, на жаль, ніводная ўстанова гэтым не займаецца на належным прафесійным узроўні. Я маю на ўвазе не фіксацыю на аматарскую тэхніку — гэты працэс павінен быць наладжаны прафесійна на сучасным узроўні.

Патрэбна і карысна ўсё, што зроблена фалькларыстамі дагэтуль. Але ў нашай сітуацыі гэта часта самаахвяраванне. Напрыклад, калі жанчына, якая выязджае з дыктафонам на перакладных зімой — а Галіна Кутырова ледзь не загінула ў такой экспедыцыі… Пасля шматлікіх экспедыцый я для сябе вырашыў, што яны павінны быць добра арганізаваныя, трэба валодаць прынцыпамі і апаратарскай працы, і навыкамі рэжысёра дакументальнага кіно, і асвятлення, і запісу гуку, і мантажу, каб належным чынам захаваць для гісторыі людзей, якія самі ўвасабляюць гісторыю — праз традыцыю. Чаму навукоўцы розных краін свету сёння цікавяцца фалькларыстыкай у Беларусі? Таму што тут сапраўды яшчэ захаваўся багаты аўтэнтычны матэрыял…

**Ад рэдакцыі:** І ёсць праекты па стварэнні каталога назапашанай фальклорнай спадчыны (прынамсі, у Інстытуце культуры Беларусі), вядзецца вывучэнне нематэрыяльнай спадчыны, у тым ліку на ўзроўні акадэмічных інстытутаў. Наогул фальклорны кірунак у наш час стаў даволі папулярным.



**Вячаслаў Калацэй, загадчык кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, кандыдат культуралогіі:**

— Справа ў тым, што стварэнне каталога — гэта маніторынг таго, што ёсць. Але ён не накіраваны на тое, каб забяспечваць пераемнасць. Гэта проста статыстыка, людзі даведваюцца, дзе што ёсць. Бо да апошняга часу звесткі былі ў прыватных архівах фалькларыстаў, і калі з'явілася пытанне, што ёсць неабходнасць узяць пад ахову нематэрыяльную культурную спадчыну, то аказалася, што інфармацыя не была зведзена ў адным месцы: дзе і што дагэтуль захавалася. З гэтай мэтай якраз і ствараецца каталог. Праектаў, якія накіраваныя на пераемнасць, на актуалізацыю і самавыяўленне носьбітаў традыцыйнай культуры ў нас не хапае. І наогул ёсць адзінкі, якія працуюць з тым, што мае дачыненне да аўтэнтычнага фальклору.



**Таццяна Валодзіна, загадчыца аддзела фалькларыстыкі і культуры славянскіх народаў Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, доктар філалагічных навук:**

— Любая справа трымаецца найперш на энтузіястах і прафесіяналах. Выдатна, што ёсць розныя падыходы да працы з фальклорам, іх прадстаўляюць структуры інстытуалізаваныя (кшталту Акадэміі навук ці Інстытута культуры Беларусі) з аднаго боку, і з другога — ёсць рух сярод зацікаўленых асоб і прафесіяналаў. Яны, на маю думку, мусяць падтрымліваць адзін аднаго, пры тым, што прадстаўляюць розныя кірункі адной і той жа дзейнасці. Калі казаць пра спецыялістаў, яны робяць сваю справу. Я лічу, што шэраг нашых беларускіх фалькларыстаў шмат сабралі і шмат зрабілі, не пагаджуся, што ў нас не праводзіцца прафесійная фіксацыя. Тое, што няма належнай прафесійнай тэхнікі, яшчэ не значыць, што спецыялісты робяць справу непрафесійна. Але я згодная, што недастаткова толькі збіраць фальклор, яму трэба падаўжаць жыццё, і я за тое, каб з'яўляліся людзі, якія гараць гэтай справай, прадумваюць нейкія праекты, арганізоўваюць фестывалі. А мы з боку Акадэміі навук гатовыя дапамагаць. Было б вельмі ўхвальным, каб у краіне на дзяржаўным узроўні падтрымліваліся розныя праекты, накіраваныя на фіксацыю, развіццё і захаванне фальклорных традыцый, у тым ліку і праз праект «Таўкачыкі».



**Уладзімір Мароз, паэт, сцэнарыст, кінарэжысёр, вядучы рэдактар студыі «Летапіс» Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм»:**

— І за савецкім часам здымалі фільмы, прысвечаныя фальклору. Напрыклад, знакаміты этнамузычны цыкл з 7-мі фільмаў (здаецца, пачынаўся ў 70-я гады). Заўсёды, калі да нас прыходзілі з прапановай, мы ішлі насустрач. Кінастудыя — не тая структура, якая вядзе мэтанакіраваную працу ў гэтым кірунку, але я пагляздзеў фільмы за апошнія 5 гадоў: знятыя «І тчэ жыццё свае ўзоры», «Варвараўская свечка», «Абрад Чырачка», «Тураўская галава». Так, гэта несістэмная праца, і падтрымліваю думку, што павінна быць прафесійная група, якая б здымала фільмы, у якіх была б захавана тэхналогія абраду, атмасфера, час. Таму што дакументальнае кіно так ці інакш эмацыйна афарбоўваецца рэжысёрам.

**Вячаслаў Калацэй:**

— На тым узроўні, на якім патрэбна, запіс робіцца несістэмна. Мы ў свой час больш за 10 год таму стварылі спецыялізацыю «Этнафоназнаўства». Мы атрымалі прызнанне і на фестывалях, і на конкурсах навуковых работ. Але ўвесь час, што існуем, нас хацелі да чагосьці далучыць: то да раздзела харавой музыкі, то да агульнай сусветнай музычнай культуры. Але, напрыклад, у Нарвегіі ёсць спецыяльная навучальная ўстанова, цалкам прысвечаная нарвежскай культуры, у тым ліку старажытнай, яны могуць сабе гэта дазволіць і ні да чаго гэта не далучаюць. Нам трэба зразумець: ёсць сусветная музычная традыцыя (італа-нямецкая музыка пісьмовай традыцыі), а ёсць музыка вуснай традыцыі, якая добра захавалася ў Беларусі. Мы маем моцную аўтэнтычную традыцыю. Ад нашых носьбітаў можна пачуць унікальныя творы (у параўнанні з іншымі краінамі). Але ёсць пытанне: што далей? Бо гэта традыцыя падхоплівалася наступнымі пакаленнямі, але ўжо ланцуг перарываецца. Зараз пераемнасць даверылі прафесіяналам — фалькларыстам, педагогам і дзеячам мастацтва.



**Наталля Матыліцкая, спявачка, удзельніца фестывалю сучаснага фальклору Еўрапейскага вяшчальнага саюза «Еўрафолк», старшы выкладчык кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў:**

— Лічыцца, што фалькларысты павінны рабіць усё за свой кошт, па нейкім астаткавым прынцыпе. Не думаю, што гэта правільна. На жаль, пра спадчыну мала хто з беларусаў думае ў штодзённым жыцці. Нягледзячы на тое, што ў нас сапраўды ёсць архівы, адчуваецца недахоп аўдыя- і відэаархіваў на добрых носьбітах — вось у чым праблема. Для даследаванняў філолагаў-фалькларыстаў таго, што ёсць, магчыма, дастаткова. Але для спевакоў, для студэнтаў, для тых, хто спрыяе папулярызацыі і пераемнасці, патрэбны іншы ўзровень.

Яшчэ хацелася б сказаць пра такі важны момант. Адчуваецца востры недахоп выдадзеных і даступных больш шырока аўдыязапісаў аўтэнтычнага фальклору. Гэта я вам кажу як спявачка з вялікім стажам і як педагог, што выкладала аўтэнтычны вакал, меўшы сваю групу студэнтаў на нашай кафедры ўніверсітэта культуры. Раней як было (а часцяком працягваецца і да гэтай пары): этнамузыколагі суправаджалі тэкст песні нотным запісам яе мелодыі. Гэта, магчыма, патрэбна для тэорыі навукі, але непрыдатна для практычнага ўзнаўлення гэтых песень. Я як спявачка не засыпала па гэтых нотах, а толькі калі пачула выкананне аўтэнтычнай бабулі з Любаншчыны… І ніхто не засыпае! Пры развучванні песень мы са студэнтамі

▶

# фальклор

## Што мы пакінем нашчадкам у спадчыну?

▶ кафедры этналогіі і фальклору прынцыпова арыентуемся толькі на запісы, бо толькі так можна напоўніцу адчуць усе нюансы аўтэнтыкі, ноты гэта не перадаюць. А горш за ўсё, што вядомыя такія факты ў савецкія часы: сціраліся аўтэнтычныя запісы з-за недахопу сродкаў на закупку новых касет. Дык вось, выдадзеных дыскаў вельмі мала. У тым ліку Юрась Выдронак пастараўся запоўніць гэты прагал, выдаўшы 2 дыскі па каляднай традыцыі Беларусі. Гэтую працу трэба працягваць. Наогул, мала хто можа пазмагацца за агульную працу, а звычайна толькі за сваю частку. Але ж на нас адказнасць за захаванне беларускай спадчыны для ўсяго свету. Гэта праблема, на маю думку, узнятая своечасова. Наогул, людзей з інтэлігенцыі, якія ўзнялі на такі ўзровень праблему, у нас вельмі мала. Выдронак многія рэчы зрабіў першым у СНД, напрыклад, на сцэну «Славянскага базару» вывеў аўтэнтычную бабулю. Адметны фестываль «Таўкачыкі», які ўжо трэці год не атрымлівае падтрымкі (хоць да гэтага 10 гадоў яго падтрымлівалі). Гэты фестываль трымае вельмі высокую мастацкую планку: у сучаснай музыцы, звязанай з фальклорам, у нас няма нічога падобнага. Здаецца, фальклору шмат, але гэта шырспажыў мастацкай самадзейнасці. Некалі ва ўкраінскім падручніку я прачытала, што фальклор у іх — высокае мастацтва на ўзроўні з класікай. У нас няма такога падыходу.

**Вячаслаў Калацэй:**

— У грамадстве няма прызнання таго, што аўтэнтычны фальклор у сваіх лепшых праявах — гэта асаблівае аўтэнтычнае мастацтва. Бо гэта мастацтва прынцыпова іншай прыроды. У сваіх лепшых праявах гэта мастацтва на ўзроўні шэдэўра, але ім ніхто не жадае займацца як належыць. Калі для папулярызацыі класічнай музыкі ёсць сістэма, якую ў савецкі час заклалі Луначарскі і Ленін, — музычная школа, каледж, кансерваторыя, філармонія, — то для мастацтва вуснай традыцыі сістэма не створана (на жаль, дамы творчасці не працуюць у гэтым кірунку). Патрэбныя рэальныя праекты, якія знаёмяць з ім шырокія колы грамадства, папулярызуюць аўтэнтычны фальклор, узнімаюць яго на ўзровень высокага мастацтва. Напрыклад, ёсць фестываль «Берагіня», скіраваны на захаванне аўтэнтычнай харэаграфіі. Гэта пераемнасць ёсць і ў фестывалі аўтэнтыкі «Таўкачыкі», калі на філарманічную сцэну выходзяць рэальныя носьбіты традыцыі. Праект накіраваны на папулярызацыю і ўзняцце традыцыйнай спеўнай культуры да статусу высокамастацкага, сцэнічна запатрабаванага ўзору. Праект цягнецца некалькі год і атрымаў прызнанне, бо ў нас адзінкі такіх фестываляў, дзе яднаюцца некалькі пакаленняў, уцягнутых у фальклорную творчасць: носьбіты традыцыі (аўтэнтычнага напрамку), моладзь, якая пераймае гэта на прафесійным узроўні, — фольк- і рок-гурты, эксперыментальныя аб'яднанні, нават дзеці. Арганізатары праекта раюцца са спецыялістамі, калі запрашаць аўтэнтычныя гурты. Быў вялікі плён ад гэтага праекта: этнічная культура была ўзнята на пастамент высокага мастацтва. Гэта той кірунак, за якім наогул адметнае аблічча беларускай культуры.

**Віктар Кульпін, старшыня Асацыяцыі майстроў музычных інструментаў Беларускага саюза музычных дзеячаў, дацэнт, кандыдат філасофскіх навук:**

— Фальклор — сістэма самадастатковая. Яна жыве, бо ў ёй жыццё тых, хто яшчэ не памёр. Слова «прафесіянал» у гэтым свеце і добрае, але і ўяўляе сабой



«развал цэлага», бо мы мыслім прадметна. Народная культура забяспечвае жыццё, якое цячэ само па сабе. Беларуская культура вялікая тым, што ў нас ёсць традыцыя, згодна з якой добрае не выкідаецца — гэта наогул наша нацыянальная рыса. Тут выкарыстоўвалася слова «сістэма», за яго трэба зачапіцца, таму што любая праца павінна быць усталявана ў сістэму. У нас працавала навукова-даследчая лабараторыя народных інструментаў (да чаго я меў дачыненне). Нашы тэмы мелі прыкладны характар: мы займаліся гісторыяй стварэння народных інструментаў. Мы павінны давесці справу да канца, каб быць карыснымі айчыннай культуры: каб кожная мама мела магчымасць пайсці ў краму і набыць традыцыйны музычны інструмент для свайго дзіцяці, якое б далей працягвала беларускую музыку ці хаця б разумела яе. Для гэтага патрэбна паслядоўная дзяржаўная праграма, падмацаваная фінансаваннем. Патрэбная сістэма, дзе адно рашэнне не перакрэслівала б іншыя, дзякуючы чаму мы наблізіліся б да рэальнага выніку.



**Рыгор Сітніца, старшыня Беларускага саюза мастакоў:**

— Калі ў нас не з'явілася разуменне, што фундамент краіны і нацыі — мова, а разам з мовай — фальклор, то на што спадзявацца? Грамадства само сябе пачынае ратаваць праз прыватныя ініцыятывы (падобна праекту «Мова нанова»). Тое ж і з фальклорам: ёсць апантаныя людзі, здольныя ім запаліць іншых. Таму што ў нас, на жаль, большасць разумее пад фальклорам вульгарна-папсовую нібыта народную музыку, якая бярэцца за ўзор. Але гэта прафанацыя фальклору, адзін з варыянтаў папсы. А фальклор — чыстая форма, узор гармоніі і ці не найвышэйшая ступень нашай культуры. Падтрымліваць яе, дбаць пра пераемнасць традыцый — дзяржаўная справа, на што мы і можам звярнуць увагу.

**Наталля Матыліцкая:**

— Таксама і ў дачыненні да тых жа «Таўкачыкаў». Гэта праект, які нарадзіўся з прыватнай ініцыятывы. Але задачу ён выконвае дзяржаўную, таму і клопат павінен быць дзяржаўны ў яго падтрымцы. І ўлады, і мы, прафесіяналы, нясём адказнасць за тое, што пакінем нашчадкам і ў якім стане. Сёння тэкставых архіваў шмат, але ў дачыненні да фальклору новы ніколі не будзе лішнім. У Літве, напрыклад, шмат бабулек перазапісаныя па сто разоў. У нас на добрых носьбітах трэба было б перазапісаць усіх, хто яшчэ прадстаўляе аўтэнтычныя спевы. Ва ўніверсітэце мы вучым, каб усё было як на вуснай традыцыі — і гэта лепшае, што дазваляе адчуць душу песні.

**Віктар Кульпін:**

— Народная культура — гэта сапраўдная скарбонка мудрасці. Беларуская народная культура — узор талерантнасці, дзе спалучыліся і суіснавалі розныя плыні: у ёй і дагэтуль ёсць праявы паганскіх часоў (трэба разумець, што гэта сведчанне пэўнага этапу, які прайшла культура ў працэсе фарміравання) і больш позняй хрысціянскай традыцыі. Народная традыцыя засвоіла абедзве гэтыя практыкі ў тым варыянце, дзе яны сведчаць пра доўгае культурнае развіццё народа, а не перашкаджаюць ці супрацьстаяць адна адной. Гэта трэба разумець, ацэньваючы канкрэтныя праекты з пункту гледжання іх культурнай вартасці, а не шукаць тое, чаго ў іх няма. Як, напрыклад, у адным праекце разгледзелі несупадзенне з ідэаламі хрысціянства: я паглыбіўся ў беларускі міф, калі рабіў спектакль «Дзень Перуна» разам з Ларысай Сімаковіч. Але нас падтрымалі ў Міністэрстве культуры. Справа ў тым, што ёсць рэчы, якія трэба разглядаць у культуралагічным ключы, але не ў традыцыі асобнай канфесіі ці веры, таму што яны гістарычныя, істотныя для народа, для разумення яго менталітэту і нацыянальных рыс.



**Аляксей Рагуля, прафесар кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, кандыдат філалагічных навук, літаратуразнаўца:**

— На маю думку, мы робім памылку, калі раскладаем фальклор на кавалачкі, па скрыначках. Трэба браць сутнасць фальклору ў цэлым, з яго анталогіяй, з яго эпістэмалогіяй і далей выходзіць на асобу. Мы можам выдрэсіраваць студэнтаў правільна спяваць, але гэта будуць малпы, якія навучацца капіраваць. Але трэба браць у цэлым комплекс — антрапалагічныя значэнні і агульны сэнс фальклору, бо ў ім усё арганічна. Але напачатку — сэнс, Логас, згодна з Пісаннем (у перакладзе мы яго разумеем як Слова). Напачатку і павінна стаць гэтая першапачатковая сума ападыктычнага ведання, што і засяроджана ў беларускім слове. Логас мае розныя значэнні: гэта слова, гэта навука, гэта розум. А ў наш час патрэбна такое слова, якое было б забяспечана перш за ўсё беларускім досведам нацыянальнага існавання. Таму трэба сёння ісці ў людзі.

І ёсць яшчэ важны аспект: культур-філасофскія сэнсы народнай культуры. Мне здаецца, словы «традыцыйная культура» нас цягнуць назад (бо атрымліваецца, што ёсць нетрадыцыйная культура). Але без традыцыі няма культуры, бо традыцыя — гэта культурная памяць, якая папаўняецца ўвесь час новымі напластаваннямі, сэнсамі. Гэтыя сэнсы заключаны ў розных формах яе існавання, перш за ўсё ў форме дзеі… Таму я б палічыў патрэбным фарміраванне вандроўных тэатраў. І там павінен гучаць тэатр усіх форм фальклору. У нас няма пераемнасці ні ў слоўнай, ні ў, мне здаецца, музычнай культуры, ды ў тэатральнай культуры. Таму тое, што стварыў Мікола Козенка, ці тое, што робіць Выдронак, а таксама тое, што знайшлі нашы тэарэтыкі, — усё трэба матэрыялізаваць. І тады з намі будуць лічыцца: калі мы грымнем, калі беларуская культура загучыць, калі народ разам з намі будзе спяваць, скакаць, весяліцца, плакаць...



**Вольга Лабачэўская, прафесар кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, доктар мастацтвазнаўства:**

— Тое, што мы абмяркоўваем сёння, — адна з форм захавання і развіцця фальклорнай спадчыны, якая належыць усяму насельніцтву краіны. Як падаткаплацельшчыкі мы ўсе выдаткоўваем грошы на тое, каб краіна мела адпаведную культуру. Таму варта было б паставіць пытанне: чаму Інстытут культуры Беларусі, які быў адноўлены, у свой час рабіў першы міжнародны фестываль фальклору, але ні другога, ні трэцяга потым не было? Напэўна, пры такой дзяржаўнай структуры павінны быць дырэкцыі фестываляў, скіраваныя перш за ўсё на захаванне аўтэнтыкі: «Берагіні» і «Таўкачыкаў».

**Юрась Выдронак:**

— «Таўкачыкі» — гэта не фестываль, а праект, які аб'ядноўвае экспедыцыйную працу, далей займаецца рэканструкцыяй абрадаў, ладзіць семінары, выстаўкі, канцэртныя праграмы. Гэта праект комплексны, але накіраваны на вырашэнне праблемы папулярызацыі і разумення аўтэнтычнага фальклору як высокага мастацтва. Раней было разуменне таго, што мы робім, мы адчувалі падтрымку дзяржавы…

**Рыгор Сітніца:**

— Неабходныя такія фальклорныя фестывалі, бо яны ў першую чаргу для моладзі, якой патрэбная культурная глеба. А моладзь разумее, што ёсць фальклор, што ёсць мадэрн-фальклор, як яны суіснуюць, як з аднаго можа вырасці другое, атрымаць працяг у сучаснасці.

**Вольга Лабачэўская:**

— Фальклор і народная культура так ці інакш дапамагаюць народу вырашыць праблему ідэнтычнасці. Сёння гэта праблема актуалізаваная, ёсць яе адчуванне на дзяржаўным узроўні. Таму што фальклор — гэта і праблема нацыянальнай бяспекі, што актуальна для нашай (як і для любой іншай) краіны. Таму вакол гэтай тэмы павінны аб'ядноўвацца тыя, хто займаецца альбо тэарэтычнымі, альбо практычнымі пытаннямі.

Запісалі Маргарыта ДЗЯХЦЯР, Ларыса ЦІМОШЫК

# Сутнасць рэчаў

## выяўляюць беларускія дызайнеры

**Крэсла як асноўны арт-аб'ект выстаўкі: звычайнае ўспрыманне яго губляецца, калі бачыш разнастайную і шматгранную «палітру» падыходаў айчынных дызайнераў да распрацоўкі яго канцэпцый — ад функцыянальнай мэблі да эксклюзіўных арт-аб'ектаў, якія ўражваюць, па-першае, візуальнай эстэтыкай, па-другое, тэхнікай выканання. Наколькі дызайн Беларусі запатрабаваны і разнастайны? Адказы на гэтыя пытанні карэспандэнт «ЛіМа» паспрабавала знайсці, наведаўшы біенале «Пастулат-2016» у Палацы мастацтваў.**

Праект праходзіць у Мінску ў трэці раз. Але…

— *Кожны «Пастулат» для нас — крок да стварэння Музея крэсла,* — распавядае старшыня Беларускага саюза дызайнераў Дзмітрый Сурскі. — *Плануем, калі з'явіцца музей, пры ім павінна дзейнічаць майстэрня, дзе па прадстаўленых узорах будуць выбрацаць унікальныя аб'екты ў адзінкавых асобніках. Ёсць у нас яшчэ адна думка: у межах «Пастулата» абвясціць конкурс на стварэнне беларускага трэнду ў «галіне» крэсла, каб усе ведалі, што разам з венскім крэслам, грэцкім клісмасам ёсць абсалютна арыгінальнае беларускае крэсла. Дарэчы, дзякуючы «Пастулату» з'яўляюцца сур'ёзныя дызайнерскія рашэнні, якія можна смела пускаць у вытворчасць. Крэсла — унікальны аб'ект, ёмісты прадмет, які стварае ідэі для бізнесу. Мы ў Саюзе дызайнераў нават спрабавалі палічыць, колькі чалавеку патрэбна крэслаў у жыцці. Ёсць жа крэсла сантэхніка, цырульніка, офіснага работніка, а ёсць і крэслы, якія чалавек выбірае дзеля хатняга адпачынку. У сучасных жа крэслаў жыццё кароткае. Раней, калі іх рабілі з дыхтоўных, якасных матэрыялаў, яны маглі праслужыць шмат гадоў, сёння тэрмін іх службы і актуальнасці ў выніку новых тэндэнцый скарачаецца.*



Ігар Балаханаў «Крэсла вікінга», 2015 г.

Прайшоўшы па выстаўцы, адразу пачынаеш разважаць: наколькі пакупнікі цікавяцца прадуктамі, якія ствараюць айчынныя дызайнеры, і ці можна гаварыць пра дызайн як бізнес у Беларусі? На гэту тэму Дзмітрый Сурскі працягнуў:

— *Я не ведаю ніводнага прадпрыемства, якое пазіцыянуе сябе як распрацоўшчык у галіне прамысловага дызайну. Хіба што толькі тыя, хто выконвае разавыя заказы прадпрыемстваў альбо працуюць на фрылансе па замежных заказах. Але назваць гэта сапраўдным бізнесам некарэктна. Калісьці ў нас існаваў Беларускі філіял Інстытута тэхнічнай эстэтыкі, які працаваў па розных напрамках і абслугоўваў увесь былы Савецкі Саюз, — сёння нічога аналагічнага ў краіне не знойдзеш. У свеце існуе вялікі інстытут менеджараў, маркетолагаў, якія ўкараняюць прадукты, спраектаваныя дызайнерамі, прасоўваюць іх. У нас такога няма, але нам адчынены дзверы да розных спосабаў і прыёмаў, якія могуць дазволіць рэалізаваць аб'екты. Напрыклад, краўдфандынг: тут трэба не ленавацца, а толькі напісаць заяўку і паверыць ва ўласную ідэю. І таксама, як у любым бізнесе, можна шукаць інвестараў, можна прадаваць праект розным вытворцам. Рабіць нейкія крокі трэба абавязкова.*

Паколькі раней у Беларусі была магчамасць працаваць у дызайнерскім напрамку актыўна, і нават забяспечваць унікальнымі рэчамі практычна ўвесь Савецкі Саюз, то дзіўна, што цяпер мы згубілі такі шанц. Што замінае творцам выходзіць на камерцыйны ўзровень сёння? Тут у майго суразмоўцы таксама знайшоўся адказ:

— *Поспех прыходзіць да тых людзей, якія ўмеюць усё, якія самі для сябе менеджары, маркетолагі, прамоўтары. Я спрабую гэтым займацца. І ўсе праекты, якія рэалізуюцца ў Саюзе дызайнераў, маюць калектыўны характар, скіраваны матываваць дызайнераў на стварэнне ўнікальных рэчаў. Тым больш мы прыкладаем максімум намаганняў, каб паказаць іх і за межамі нашай краіны.*



Добра, што глядач мае магчымасць бачыць, чым займаюцца айчынныя дызайнеры, што прапануюць зацікаўленай публіцы. Такія праекты, як «Пастулат», — адзін з крокаў развіцця дызайну, падстава спадзявацца, што ідэі беларускіх дызайнераў спраўдзяцца.

**Вікторыя АСКЕРА**

**Культурны ракурс**



**Польскі і беларускі пісьменнік Адам Міцкевіч нарадзіўся ў сям'і збяднелага шляхціца непадалёк ад Навагрудка. Нягледзячы на тое, што ў 25 гадоў ён вымушаны быў з'ехаць з Беларусі, менавіта прырода, гісторыя і фальклор Навагрудчыны сфарміравалі рамантычны стыль знакамітага літаратара, які імкнуўся вярнуцца на радзіму, услаўляючы родны куток у сваіх творах.**

**У Навагрудку паважаюць памяць вядомага суайчынніка. Ёсць вуліца і прамысловае прадпрыемства, названыя ў гонар паэта, усталяваны два помнікі, адкрыты Дом-музей. Аднак усё гэта з'явілася адносна нядаўна — у канцы ХХ ст. Больш як 100 гадоў спатрэбілася, каб у горадзе ўстанавілі першы помнік Адаму Міцкевічу.**

**Спрабавалі ўшанаваць яго памяць яшчэ ў 1860-м годзе. Не атрымалася. У 85-я ўгодкі смерці славутага земляка зноў хацелі ўсталяваць помнік. Мясцовыя ўлады дазволілі будаўніцтва і ўжо абвясцілі конкурс на лепшы праект. Але пачалася Вялікая Айчынная вайна… Толькі ў 1992 годзе каля Замчышча, у парку, паўстаў помнік Адаму Міцкевічу. Яго аўтар — скульптар Валяр'ян Янушкевіч.**

**Святлана ЕРМАКОВА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфаваць каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Д. А. Чарняўская

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 17.11.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1606.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 4465

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686